PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 51 (1858) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 22 СНЕЖНЯ 1991 г. ЦАНА 1000 зл.



Родныя краявіды. Наднараўчанскія лугі. **Фота Я. Целушэцкага.**

## БЕЛАСТОЦКІЯ СУСТРЭЧЫ З КУЛЬТУРАЙ ПАГРАНІЧЧА

З 29 лістапада пачаліся ў Беластоку „ІІ Сустрэчы з культурай паграніччa". Тэма сёлетніх сустрэч — „Польшча і Украіна на сутыкненні культур і народаў". З Украіны прыехала каля 30 асоб (9 гасцей вярнулі назад — тых, хто прыехаў толькі з гандлёвай мэтай), быў адзін паэт-паляк з Вільні, трох прадстаўнікоў Беларусі. Большасць гасцей жыла ў ціхім гатэліку на Звярынцы, амаль у цэнтры горада, што спрыяла кантактам саміх артыстаў і журналістаў і пазнанні Беластока. На жаль, не ўсе імпрэзы сустрэч зацікавілі шматлікіх слухачоў і гледачоў, хаця выцягнулі з цёплых кватэр у гэтыя дажджлівыя і халодныя лістападавыя і снежаньскія дні і вечары найбольш уражлівых і зацікаўленых культурай беластаччан.

Імпрэза пачалася сустрэчай украінскіх паэтаў і перакладчыкаў са студэнтамі філалогій у зале Філіі Варшаўскага універсітэта. Прысутнічалі Антаніна Цвыд, Наталка Поклад, Станіслаў Шаўчэнка, Мыкола Рабчук з часопіса „Всесвіт", Леанід Чаўдранян — старшыня групы „Белы птах", Станіслаў Сракоўскі — польскі паэт, драматург, празаік і перакладчык з Вроцлава. Сустрэчу вёў вядомы літаратурны крытык і перакладчык Вальдэмар Смашч. Л. Чаўдранян расказаў пра дзейнасць суполкі „Белы птах", якая прыбліжае чытачам літаратуру і культуру Польшчы і Украіны. В. Смашч прадставіў сярэдняе і маладое пакаленне творцаў украінскай паэзіі. Паэты чыталі свае вершы на роднай і польскай мовах, В. Смашч і Ст. Сракоўскі чыталі свае пераклады са зборніка „Чарнобыльскі аўтограф", выдадзенага Ваяводскім цэнтрам анімацыі культуры (ВЦАК) у Беластоку з нагоды сустрэч. Студэнтаў найбольш зацікавіла прысутнасць паэтаў з Падляшша на літаратурнай ніве Украіны.

Гэтыя ж паэты і крытыкі выступілі ўвечары на „Сустрэчах паэтаў" у Ратушы. Слухачоў было няшмат, але які вянок! Наталка Поклад нават спявала верш Ліны Кастэнка („У цягніку з Варшавы"), а на заканчэнне па-ўкраінску з залы заспяваў славуты Збышак Насядка, паэт і славянін душой і талентам.

Першы дзень сустрэч закончыў у зале ВЦАК (упрыгожанай малюнкамі цыганкі з Масквы Тамары Дэмэтэр і дзіцячымі працамі з конкурсу „Помнікі царкоўнага мастацтва") „Вечар украінскі", падрыхтаваны „русінамі" з Беласточчыны, які вёў Іван Кірызюк (пачаў ён пару сказамі па-ўкраінску, а потым усё пайшло „па-падляску"). Цудоўна выступілі самадзейніцы з Арэшкава і Чаромхі, квартэт з Валыні, барды з Кіева — Аляксандр Смык, Аляксандр Гаркавы і Аляксандр Жылінскі, многа расказаў на роднай мове пра гісторыю і сучасныя праблемы лэмкаў іх прадстаўнік. Вечар працягнуўся далёка за поўнач, але зала не пусцела.

Размовы і дыскусіі працягваліся і ў гатэлі, і ў кулуарах сустрэч. Для мяне асабіста найбольш цікавымі і адкрыўчымі былі кантакты са Станіславам Шаўчэнкам, Аляксандрам Кананенкам, цудоўнай Наталяй Поклад, Станіславам Сракоўскім і журналістам „Нашага слова" Тадэем Карабовічам.

У суботу, 30 лістапада, у кавярні Дома настаўніка мы былі на сустрэчы са Станіславам Сракоўскім. Спатканне гэта было аказіяй адзначыць 25 гадавіну творчай працы пісьменніка. Выступілі ўкраінскія паэты, перакладчыкі, беластоцкія паэты-настаўнікі. Беларускім акцэнтам была паэма Міры Лукшы „Вобраз для Тараса", напісана ў Кіеве ў лістападзе 1990 года, якая мела быць першы раз публічна прачытана ў дзень незалежнасці Украіны, але слухачы пачулі яе дзень перад рэферэндумам на Украіне. Наталя Поклад перакажа паэму на ўкраінскую мову.

**( Працяг на стар. 8 )**

## БАГДАНОВІЧАЎ ВЕЧАР

Не магу не падзяліцца з беларусамі на Беласточчыне тым, якую асалоду атрымала ад вечара да 100-годдзя М. Багдановіча, які правялі вучні 3 б класа і настаўніца Вольга Сянкевіч у Гайнаўскім беларускім ліцэі.

Маленькая зала беларускага класа. На сцяне „Пагоня" і партрэт паэта. Мігаюць свечкі. Юнакі і дзяўчаты ўсхвалявана сядзяць у кружочку (як некалі на вячорках).

Адна хвілінка — і палілася родная мова. Літаратурная частка атрымалася камернай — крыху пра лёс паэта, крыху паэзіі, крыху ўспамінаў і абавязкова песні на яго вершы. Ціха гучаць галасы, нібы баяцца патурбаваць далікатнага паэта, мілагучна спяваюць „Зорку Венеру", сумна гараць свечкі... А за акном кружацца першыя сняжынкі, і ў момант накрываюць Гайнаўку белым абрусам.

Сумна-ўрачыстыя твары. На жаль, малавата было настаўнікаў і вучняў. Можа стаміліся, а мо і пачалі забывацца пра родную мову? Відаць, і тое, і другое. Але, напэўна, так і лепш, бо Максім здаецца, не спадабаў бы вялікую і шумную „імпрэзу".

**АЛЕНА ТАБОЛІЧ**






## АДРАДЖЭННЕ

(3)

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

У выніку распаду СССР можа стацца так, што праз некалькі месяцаў палова або дзве трэція беларускіх фабрык і заводаў стане з прычыны недахопу сыравіны, якую пастаўлялі іншыя рэспублікі. Зрэшты, ужо сёння многія беларускія прадпрыемствы працуюць на палову сваіх вытворчых магчымасцей, бо СССР агорнуты паралічам, у выніку якога спыніліся пастаўкі сыравіны ў Беларусь. Найгоршая бяда здарыцца тады, калі не хопіць электраэнергіі. Беларусь мае вельмі мала электрастанцый і аграмадную большасць патрэбнага току атрымлівала, між іншым, з Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Незадоўга гэта электрастанцыя будзе закрыта. Гэта значыць, што Украіна будзе вытвараць намнога меней току, чым дагэтуль. Ці ў такой сітуацыі схоча яна падключыць Беларусь да іншых сваіх электрастанцый? Сумняваюся. Зрэшты, дойдзе да голасу яшчэ іншы чыннік. Праўдападобна за настаўку сыравіны і электраэнергіі трэба будзе плаціць доларамі. Ці хопіць іх у беларускіх банках? Невядома.

Праўда, знаходзячыся апошнім разам у Менску, даведаўся я, што славуты Менскі завод халадзільнікаў атрымліваў рухавікі ад літоўцаў. Літоўцы ўстрымалі пастаўку матэрыялаў у Беларусь. Пастаўленыя перад такім фактам дырэктары магутнага завода, які прадукуе ў год каля мільёна халадзільнікаў і маразілак, у хуткім часе збудавалі фабрыку, якая ўжо забяспечвае маторамі ўвесь камбінат. Паўтараю толькі тое, што пачуў і за праўдзівасць сказанага не бяру адказнасці. Калі, аднак, гэта праўда, дык маем тут дачыненне з пазітыўным аспектам эканамічнай самастойнасці. Рашэнне праблемы на халадзільнікавым камбінаце сведчыць аб вялікіх новых магчымасцях, якія стварае якраз незалежнасць краіны.

Аднак не ў кожным выпадку такое вырашэнне магчымае. Даведаўся я, што магутныя нафтаперапрацоўчыя заводы ў Полацку і Мазыры, якія прадукуюць сорак мільёнаў тон бензіну і салярки, выкарыстоўваюць толькі частку сваіх вытворчых магчымасцей таму, што Расія спыніла пастаўку нафты. А сваёй нафты ў беларусаў няма. Усяго здабываецца ў Беларусі каля трох мільёнаў тон. І што будзе далей? Праўда, паўзакрыццё беларускіх нафтаперапрацоўчых камбінатаў б'е таксама і ў Расію. Справа ў тым, што толькі каля дваццаці мільёнаў тон паліва выкарыстоўвае Беларусь. Другая палова вярталася ў Расію або ў іншыя рэспублікі. І таму затрыманне нафтаперапрацоўчых беларускіх камбінатаў некарыснае і для Расіі. Аднак, што можа яна зрабіць, калі здабыча нафты на яе тэрыторыі паменшылася на адну трэцюю?

І тут яшчэ раз вярнуся да электраэнергіі ў Беларусі. Недалёка ад Менска будавалася атамная электрастанцыя. Пасля чарнобыльскага перапуду ўлады ўстрымалі яе пабудову. І мне здаецца, што ўлады паступілі няправільна. Беларусь без вялікіх рэк, без шахтаў вугалю і без дастатковай колькасці нафты, не можа абысціся без атамнай энергіі. Справа ў тым, што атамныя электрастанцыі трэба будаваць бяспечныя, аднак адмаўляцца ад іх будовы ўвогуле Беларусь у ніякім выпадку не можа. І таму, на маю думку, Беларусь мусіць прадаўжаць будову атамнай электрастанцыі. Пры гэтым аднак мусіць звярнуцца за дапамогай да спецыялістаў тых заходніх краін, у якіх атамныя электрастанцыі прадукуюць вялікія колькасці электраэнергіі. Такой краінай у Еўропе з'яўляецца, між іншым, Францыя, якая болей чым палову краёвай электраэнергіі мае з атамных рэактараў. Прыведзеныя тут факты пацвярджаюць ужо ранейшы мой тэзіс аб тым, што за незалежную дзяржаўнасць Беларусь мусіць заплаціць вялікую цану. Аднак кожную цану за незалежнасць народа варта заплаціць, каб толькі не была гэта цана крыві. Будзем спадзявацца, што ў выпадку Беларусі такая цана не будзе неабходнай.

АЛЕСЬ БАРСКІ

---




**Віцэ-міністр замежных спраў Ежы Макарчык** заявіў пасля вяртання з Масквы, што польскі бок „парафаваў дасканалы трактат з будучай супольнасцю, які набудзе сілу тады, калі Польшча прыйдзе да вываду, што наступіў адпаведны момант". Міністр прыпомніў, што трактат аб добрым суседстве і дружным супрацоўніцтве быў фармальна падпісаны з урадам СССР, але адначасна падпісана заяву, што „усюды там, дзе ў трактаце гаворыцца аб СССР — падразумяваецца Унія або Супольнасць, якая ўзнікла або ўзнікне ў месца СССР".

**Кожны, хто плануе ехаць на Беларусь** павінен за візай звяртацца не ў Маскву, а ў Менск — да ўладаў Рэспублікі Беларусь. Усе фармальнасці, звязаныя з запрашэннем грамадзян з заграніцы, іх уездам і выездам пераняло Міністэрства замежных спраў РБ.

**У Лаздзіяй на Літве** сустрэліся прадстаўнікі транспартных фірм Літвы, Латвіі, Беларусі і Польшчы. Мэта сустрэчы — устанавіць графік пераездаў праз граніцу. Апрача рашэнняў аб паляпшэнні пераездаў пастаноўлена адкрыць яшчэ адну аўтобусную лінію паміж Польшчай і Літвой. Аўтобус з Пунска праз Сейны ў Лаздзіяй выедзе на трасу яшчэ ў гэтым годзе.

**У Супраслі адбылася нарада на тэму крымінальна-парадкавых пагроз, якія нясе наплыў у Польшчу грамадзян СССР. Арганізатарамі нарады былі Галоўная камендатура Паліцыі, Управа аховы дзяржавы і Галоўная мендатура Гранічнай стражы. На нарадзе абмяркоўваліся пытанні арганізаванай злачыннасці за ўсходняй мяжой Польшчы, крымінальнай пагрозы з боку турыстаў, спосабу павядзення парадкавых сіл у выпадку выдалення чужаземцаў, супрацьдзеяння кантрабандзе наркотыкаў і гаспадарчым аферам.**

**З неафіцыйным візітам** у Беластоку прабывалі мэр Гродна **Сямён Домашч** і яго намеснік па культурных справах **Аляксандр Міляневіч**. Падчас размоваў з прэзідэнтам Беластока **Лехам Руткоўскім** абмяркоўваліся пытанні супрацоўніцтва ў галіне культуры між Беластокам і Гроднам у будучым годзе.

**„Ачышчэнне"** — так называецца выстаўка карцін беларускіх мастакоў згуртаваных у майстэрні **Рыгора Лойкі**, якая да канца месяца экспануецца ў Бюро мастацкіх выставак у Беластоку.

**II Міжнародны семінар „Спадчына Заменгафа"** праходзіў у Беластоку — горадзе, у якім нарадзіўся творца мовы эсперанта.

## ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### КЕБІЧ НЕ ЗГАДЖАЕЦЦА

Нечакана — нават для кіраўніцтва беларускага ўрада — выступаючы ў Вярхоўным Савеце Беларусі, Барыс Ельцын загаварыў аб запазычанасці (2,5 мільярда рублёў) Беларусі перад Расіяй. Прапануючы абраць шлях парытэту „старэйшы" брат аб'явіў аб рашэнні зменшыць на пяць мільёнаў тон пастаўку нафты, каб „у наступным усё-такі ў нас былі адносіны раўнапраўных дзяржаў".

А старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч запэўнівае, што нехта Барыса Ельцына ўвёў у зман, бо, па падліках беларускага ўрада, існуе поўны парытэт паміж пастаўкамі Беларусі ў Расію і Расіі ў Беларусь.

### УЛАСНАЯ ГВАРДЫЯ

На пасяджэнні Каардынацыйнай рады Беларускага згуртавання вайскоўцаў прыняты „Зварот да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь", дзе выказваецца занепакоенасць ростам сацыяльнай і палітычнай напружанасці, пашырэннем карупцыі і падзеннем дысцыпліны ў савецкіх Узброеных Сілах. Беларускае згуртаванне вайскоўцаў заклікае народных дэпутатаў узяць на сябе адказнасць за правядзенне карэннай вайсковай рэформы, першачарговай мэтай якой павінен стаць пераход ад адзіных Узброеных Сіл да аб'яднаных.

### КАЛЯДЫ ПАЧЫНАЮЦЦА З ТЭАТРА

Спектакль драматурга Я. Кофта „Сялянская вайна" ў пастаноўцы тэатра-студыі „Дзе-Я" быў першым пачаткам для наведвальнікаў „Студыйных калядаў-91" — другога Міжнароднага фестывалю эксперыментальных тэатраў, які праходзіў у Менску. Дзякуючы арганізатарскай дзейнасці Асацыяцыі тэатраў-студый і Саюза тэатральных дзеячоў, менчукі пабачаць 30 спектакляў, падрыхтаваных калектывамі з Літвы, Расіі, Германіі, Польшчы і, зразумела, Беларусі.

### БАЛЬШАВІКІ Ў МЕНСКУ!

Падпольныя манеўры на ўсёй Беларусі прыхільнікаў стварэння новай бальшавіцкай партыі завяршыліся на тыдзень раней за намечаны афіцыйна тэрмін — 7 снежня — устаноўчым з'ездам, які адбыўся ў Менску. На з'езд было абрана 326 чалавек. Прыехалі далёка не ўсе, але гэта не перашкодзіла прыняць асноватворныя дакументы: Статут, праграмную заяву і шэраг рэзалюцый. Задача новай партыі сфармулявана так: падрыхтаваць неабходныя палітычныя, прававыя і эканамічныя ўмовы пераўтварэння грамадства. У рэзалюцыі аб утварэнні партыі адзначана: „У выпадку, калі дзейнасць КПБ не будзе адноўлена, або яна ліквідуецца, Партыя камуністаў Беларусі становіцца яе правапераемніцай".

У абраны на з'ездзе Палітвыканкам увайшлі вядомыя партыйныя работнікі В. Сямёнаў, А. Лашкевіч, В. Чыкін, старшыня камісіі па галоснасці Вярхоўнага Савета РБ І. Каратчэня.

### ПАРТЫЯ — БЕСПАСАЖНІЦА

Чатырохмесячны марафон, на працягу якога лёс КПСС-КПБ знаходзіўся ў падвешаным стане, нарэшце, завершаны. 10 снежня на VII чарговай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі з трох праектаў пастановы аб маёмасці камуністычнай партыі — І. Каратчэні, апазіцыі і Савета Міністраў — найвялікшую колькасць галасоў набраў апошні. Цяпер уся рухомая і нерухомая маёмасць, якая належала КПСС-КПБ, уключаючы сродкі ў рублях і валюце, аб'яўлена ўласнасцю рэспублікі. Шкада толькі, што такое рашэнне не было прынята адразу пасля жнівеньскага путчу. За перыяд няпэўнасці знікла не толькі шмат часу, але і сродкаў.

### СВЯТА МАКСІМА

Згодна з рашэннем Менскага гарвыканкама вуліца Максіма Горкага змяніла назву і будзе цяпер насіць імя Максіма Багдановіча. Гэта апошні акорд у святкаванні сотых угодак з дня нараджэння вялікага паэта. Святкаванне пачалося задоўга да афіцыйнай даты адкрыццём у Мастацкай галерэі выставы, прысвечанай творчасці М. Багдановіча. Афіцыйнае святкаванне пачалося сёмага снежня ля помніка Песняру ля Дзяржаўнага тэатра, а потым — у памяшканні ВДНГ Рэспублікі Беларусь. Восьмага снежня быў нарэшце адкрыты Літаратурны музей Максіма-кніжніка ў Траецкім прадмесці. У дзень нараджэння паэта ў Дзяржаўным акадэмічным тэатры оперы і балета адбылася ўрачыстая вечарына.

МАРЫНА ЗАГОРСКАЯ

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* „Ачышчэнне"–выстаўка карцін беларускіх мастакоў.
* Прадаць збожжа можна для фірмы „Амега".
* Якім быў мінулы культурна–асветны сезон.
* Беларусь на зыходзе дзевяноста першага.
* Святыя беларускай зямлі – св. Міна.

# ШТО Ў РЭСПУБЛІЦЫ?



**ЗЯНОН ПАЗЬНЯК** — *лідэр парламенцкай апазіцыі ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь.*

Зараз у Рэспубліцы, як і ва ўсім свеце, заканчваецца дзевяноста першы год. Для нас гэты апошні месяц, бадай, самы вырашальны, таму што Беларуская Рэспубліка, пасля аб'яўлення незалежнасці 25 жніўня, аказалася ў няўручным стане — перамаглі ідэі Беларускага народнага фронту, але ўся ўлада засталася ў руках камуністычнай наменклатуры. Камуністычная наменклатура не прывыкла ж праводзіць самастойную палітыку — яна толькі выконвала ўказанні з Масквы. Атрымаўшы незалежнасць, трэба ствараць дзяржаву, трэба думаць пададзяржаўнаму, трэба праводзіць унутраную і вонкавую дзяржаўную палітыку. Гэтых якасцяў у камуністаў не аказалася. Украіна ж, аб'явіўшы незалежнасць, павяла адразу дзейсную ўнутраную і вонкавую палітыку (візіты Краўчука ў Штаты, Канаду, Францыю, падпарадкаванне войскаў). Беларусь гэткімі пытаннямі не займалася. Да вырашэння гэтых ды падобных ім пытанняў імкнулася апазіцыя — прыкладна, у справе войска падрыхтавалі мы цэлы пакет дакументаў ды дамагліся склікання нечарговай сесіі. На гэтай сесіі бальшавікі ўсё завалілі. У выніку гэтага ў нас праблема — на нашай тэрыторыі вялікае войска, якое жыве з бюджэту неіснуючага Саюза. Расея выказала ўжо жаданне ўзяць усё войска пад сябе ды плаціць афіцэрам палучку надрукаванымі ў Маскве пустымі рублямі, якія нам давядзецца напаўняць таварам.

Другое пытанне — увядзенне нацыянальнай валюты. Апазіцыя распрацавала яго яшчэ ў дзевяностым годзе, але Савет Міністраў нічога ў гэтай справе не зрабіў. Цяпер рэспублікі вакол нас хутка будуць уводзіць свае валюты, яны ідуць па шляху лібералізацыі цэнаў, пераганяюць нас у рынкавых адносінах, а паколькі ўрад Беларусі нічым гэтым не займаўся, мы зараз церпім ад тых працэсаў, якія адбываюцца ў суседніх рэспубліках — гэта страта тавараў, разбурэнне нашага тавварнага рынку, а калі будуць уведзены нацыянальныя валюты, дык мы заглынемся ў пустых рублях ды застанемся голыя.

Самае істотнае пытанне ўлады — Вярхоўны Савет недзеяздольны, камуністычны Савет Міністраў таксама недзеяздольны, ён фактычна замяняе цяпер ЦК КПБ. Паколькі яны не ў стане вырашыць найважнейшых пытанняў жыцця Рэспублікі і народу, дык няма іншага выйсця, як паклікаць іх у адстаўку ды распісаць новыя выбары. Апазіцыя Беларускага народнага фронту гэту справу ставіла. У гэты час і прыспела пагадненне між Ельцынам, Краўчуком ды старшынёю Вярхоўнага Савета Беларусі Шушкевічам. Гэты працэс мы, як апазіцыя, расцэньваем такім чынам, што ёсць у ім пэўныя станоўчыя моманты, але працэс гэты вельмі паспешлівы. Нягледзячы на перспектыву, можа аказацца, што больш будзе адмоўнага, чым станоўчага. Адбываецца распад імперыі СССР ды гэтае пагадненне яшчэ адзін крок у кірунку распаду — гэта добра. З другога боку адбываецца іншы працэс, які праходзіць адначасна з распадам — гэта фармаванне расейскай імперыі, Ельцынаўскай імперыі. Савецкая імперыя трансфармуецца ў расейскую імперыю, якая выступае ўжо як класічны яе прыклад — вось метраполія, а вось залежныя тэрыторыі. Урад Ельцына паводзіцца як тыповы імперскі ўрад: дзейнічае вераломна, надпарадкаваў сабе агульную маёмасць (фабрыкі дзяржзнака, дзяржаўны банк, залаты запас, алмазны запас, маёмасць пасольстваў і гэтак далей). Так не робіцца. Гэта вераломства. Паколькі там, у Расеі, эканоміка хворая, адбываюцца абвальныя працэсы, а станок з грашыма знаходзіцца ў Маскве, то аднаведным чынам яны могуць шантажаваць рэспублікі і дыктаваць свае варункі. Заключэнне пагаднення, пра якое гаворым, дае вялікія шанцы для Расеі не выконваць яго. Яна яго выконваць не будзе. Гісторыя ўжо паказала, нават самая блізкая. Калі месяц назад было заключана пагадненне аб эканамічнай супольнасці, то Расея ўжо дзесятак разоў яго парушыла.

Пагадненне між Расеяй, Украінай і Беларуссю дае для Расеі вялікі шанц захаваць армію, эканамічную прастору, свой рубель, а нават тое, што яны прапануюць зрабіць у Менску цэнтр новай садружнасці гэта якар на нашу тэрыторыю — закінуць, зачапіцца і трымацца. Апазіцыя толькі што абмеркавала ўсе аспекты гэтага пагаднення, адзначыла ўсе небяспечныя ягоныя бакі ды рашыла абставіць гэтае пагадненне канкрэтнымі ўмовамі, бо яно расплывістае, яно дае менавіта для імперскай Расеі магчымасці парушаць яго, паводзіць сябе як яна захоча. Апазіцыя лічыць неабходнымі наступныя ўмовы: тэрмін пагаднення — яно мусіць быць часовае; стратэгічныя войскі могуць застацца пад адзіным камандаваннем, але пры ўмове ядзернага разбраення Рэспублікі; стварэнне нацыянальных войскаў — калі іх не будзе аўтаматычна рэанімуецца СССР; фармаванне нацыянальных валютных сістэм ды мытнай і эканамічнай прасторы дзяржаў; не павінна быць адзінага каардынацыйнага цэнтра садружнасці, бо ён з цягам часу пераўтворыцца ў цэнтр новай імперыі і апошняя ўмова — любы ўдзельнік садружнасці можа з яе выйсці. Гэтыя ўмовы неабходныя дзеля таго, каб дакумент пагаднення, які зараз выгадны Ельцыну, не пераўтварыўся ў зброю для фармавання новай імперыі і шантажу над нашымі рэспублікамі, улічваючы фактар, што пагадненне — крок да разгону Гарбачоўскай імперыі. Калі разважаць абстрактна, фактар гэты дае магчымасць рэалізаваць свой суверэнітэт, свае эканамічныя магчымасці, але зыходзячы з рэальнай палітыкі — такога не будзе. Асабіста ў мяне, калі гляджу на перспектыву пагаднення, больш рэзкае да яго стаўленне — я ўвогуле лічу пагадненне як нейкую змову, якая зроблена за сьпінай грамадскасці. Садружнасць не будзе дзейснай, таму што інтарэсы Расеі дыктуюцца не суб'ектыўнымі інтарэсамі Ельцына, а імперскаю структурай, якая ўвойдзе ў супярэчнасць з тымі ўмовамі, якія ставіцца, а ва ўсякім выпадку з умовамі, якія мы паставім. Садружнасць, калі б яе абставіць гэтымі ўмовамі, магла б адыграць пэўную ролю ў станаўленні дзяржаваў, але цяпер палітычна мы ставімся да яе вельмі асцярожна, з вялікай доляй недаверу.

*(Менск, 9 снежня 1991, размову з Зянонам Пазьняком правялі Юры Каліна і Аляксандр Максімюк, тэкст апрацаваў Аляксандр Максімюк, фота аўтара)*

**Г.S.** 11 снежня 1991 г. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь ратыфікаваў пагадненне між Расеяй, Украінай і Беларуссю. За зацвярджэнне пагаднення галасавалі 263 дэпутаты, супраць — 1, устрымаліся — 2.




**ЯН ЗБАЖЫНА**

**БЕЛАРУСЬ**

Апостал. Храм. Сьвятая вера.
Пад розными крыжамі Беларусь.
У думках, працы і глумленьні
Паўстаў, паўстаў народны дух!
І вось ужо штандар чырвоны
Са срэбнаю Пагоняю на ім
Як сымбаль Веры і Свабоды
Над нашай Бацькаўшчынай ўзвіў.
Пакуты, гвалты і навалы,
Крыжакі, ляхі, маскалі
Перад вачмі, як тыя д'яблы,
Усё кружаць, кружаць уначы.
Усё ім мала, ўсё ім дрэнна,
Усё не так, як у людзей,
У карагодзе дзікім гэтым
Маны, імперый і сьвіней.
З усіх бакоў нам пагражаюць,
Нахабна „брат старэйшы" кпіць...
А вершнік меч трымае моцна,
І ён нас будзе бараніць!

**ДА СПАДАРЫНІ А. Ц.**

*Alles ist erlaubt.**

У бясконцай прасторы сусьвету,
Там, дзе час прыпыняе хаду,
Я убачыў Вас і вось гэты,
Верш абстрактны я Вам прысьвячу.

Нерухомасьць працягу, адсутнасьць быцьця.
Час прыходзіць і час адыходзіць,
Неўміручасьць майго жыцьця ў кнізе Космасу
Ад пачатку яго быцьця.

Вось я ўвесь: я у Вас і для Вас
Адлюстрацыя думак, пачуццяў і Вас,
І бяз Вас: за мяжою дабра і зла
Ubermensch ці адсутнасьць Я.
.............................
Пах парфумы Шанэль нумар пяць.
.............................
Я сатканы для Вас з руж,
Зь бел-чырвона-белых стужак-стуж,
зь песень-вершаў і герба „Пагоні",
У летуценнай маёй маладосьці.
.............................
Я Ваш Бог.
Я Ваш Сьвет.
Я Твая Ідэя.
— — — — — — — —

**Усёдазвол*

****************************************

# У ВІРЫ ПАДЗЕЙ

На днях выйшла з друку мемуарная кніга **Георгія Валкавыцкага „Віры"**. Яе аўтар, заснавальнік і на працягу 32 гадоў галоўны рэдактар „Нівы" за час сваёй прафесійнай дзейнасці знаходзіўся ў віры нашых беларускіх падзей, быў удзельнікам або сведкам усіх важнейшых здарэнняў у жыцці нашай грамадскасці.

Георгій Валкавыцкі пасля заканчэння ў 1954 годзе навукі ў Літаратурным інстытуце ў Маскве трапіў у Беласток і стаў працаваць у рэдакцыі „Беластоцкай газеты", а потым у сектары культуры Ваяводскага камітэта ПАРП. Там і атрымаў, як сам піша „нязвыклае даручэнне — падрыхтаваць прапанову аб стварэнні беларускай арганізацыі". Пад восень 1955 года ўзнікла ініцыятыўная група з даваенных беларускіх дзеячоў, якая вызначыла першы абрыс арганізацыі. Неўзабаве пераўтварылася яна ў арганізацыйны камітэт. Г. Валкавыцкі стаў намеснікам старшыні і адказным за прапаганду, а галоўным яго заданнем з'яўлялася заснаванне беларускага тыднёвіка. У выніку 26 лютага 1956 года адбыўся І З'езд БГКТ, а з 4 сакавіка таго ж года пачала пастаянна выходзіць „Ніва".

Аўтар у сваіх успамінах прыводзіць важнейшыя факты з жыцця БГКТ, характарызуе людзей, якія займалі адказныя пасты ў Галоўным праўленні, адкрывае кулісы не аднoй, нашумеўшай у свой час справы. Апісвае таксама кантакты з цэнтральнымі і ваяводскімі чыноўнікамі, якія курыравалі беларускую дзейнасць, паказвае іх адносіны да нашых спраў у розных перыядах ПНРаўскай рэчаіснасці.

Зразумела, найбольш месца ў кніжцы адведзена „Ніве". Рэдактар Г. Валкавыцкі ўспаміны пачынае ад „сапраўднай полькі", якая пачалася пры камплектаванні асабовага складу рэдакцыі, калі выявілася, што прапанаваныя кадравікам кандыдаты на працу ў беларускай газеце, хаця шанаваныя і заслужаныя, апрача ахвоты пісаць ніякіх спроб у гэтым напрамку не праявілі. Прышлося тады яму самому падбіраць рэдакцыйны калектыў. На працягу гадоў калектыў мяняўся, а на падмогу журналістам прыходзілі карэспандэнты, дзесяткі карэспандэнтаў, якіх допісы сталі ўзбагачваць інфармацыю пра нашы гарады і вёскі.

Важнае месца ва ўспамінах займае таксама літаратурны рух. Аўтар — сам паэт (вядомы пад псеўданімам Юрка Зубрыцкі), быў стваральнікам літаб'яднання „Белавежа", адкрывальнікам паэтычных талентаў, настаўнікам пачынаючых літаратараў.

„Ніва" ад пачатку свайго існавання сустрэлася з зацікаўленнем і прыхільнасцю ў чытачоў з Беларусі. Рэдактару Г. Валкавыцкаму прысылалі свае творы тады яшчэ пачаткоўцы, а зараз вядомыя пісьменнікі, а заслужаныя дзеячы, мастакі, літаратары пісалі лісты. Некаторыя з іх прыводзяцца на старонках успамінаў.

„Віры" — гэта кніжка пра людзей-удзельнікаў беларускага грамадска-культурнага руху ў Польшчы, якіх на сваім жыццёвым шляху сустрэў аўтар. Для іх кніжка будзе прыемным успамінам аб супольнай дзейнасці (хаця сёй-той можа і пакрыўдзіцца на аўтара за шчырасць). Для нашай моладзі павінна яна стаць дапаможнікам у спазнанні нядаўняга мінулага, а напэўна будзе цэннай крыніцай для даследчыкаў беларускага пытання ў Польшчы.

**Кніжку Георгія Валкавыцкага „Віры" можна ўжо купіць у нашай рэдакцыі і ў ГП БГКТ. Каштуе толькі 20.000 зл. (л)**




### ЧАМУ Я „ВЯРБЛЮД"?

У „Ніве" н-р 48 ад 1 снежня 1991 г. у справаздачы з настаўніцкай канферэнцыі („Заангажаванне перш за ўсё") напісана: „Сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч расказала пра конкурсы для школьнай моладзі: дэкламатарскі і песенны, а таксама вучнёўскіх драмгурткоў. Дагэтуляшняя іх арганізацыя з удзелам штатнага працаўніка ГП, Янкі Морданя, атрымала адмоўную ацэнку".

Змешчанае ў такім кантэксце маё прозвішча насоўвае ўражанне, што я адзіны (галоўны) віноўнік адмоўнай ацэнкі дагэтуляшніх арганізацый конкурсаў. Пры тым няма ніякіх доказаў адмоўнай ацэнкі і маёй віны. З увагі на гэта патрабую ў аўтара справаздачы з канферэнцыі (Я.Ц.) паясненняў на старонках „Нівы". Адкажыце на пытанні:

1. Што канкрэтна сказала пра конкурсы сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч?

2. Хто даў адмоўную ацэнку дагэтуляшняй іх арганізацыі — ГП БГКТ, настаўнікі..?

3. Чаму была адмоўная (аж!) ацэнка? Якая ў тым віна Янкі Морданя (удзельніка арганізацыі конкурсаў)?.

4. Што вырашана на канферэнцыі адносна конкурсаў для школьнікаў?

Адказы, напэўна, патрэбныя не толькі мне.

**ЯН МОРДАНЬ,**
**штатны працаўнік ГП БГКТ.**

**Ад аўтара:**

Неяк дзіўна, што штатны працаўнік Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства патрабуе паясненняў ад аўтара справаздачы з настаўніцкай канферэнцыі ў Бельску-Падляшскім, а не ад прысутных на ёй намесніка старшыні ГП Я. Сычэўскага і сакратара ГП В. Ласкевіч. Відаць... пабаяўся сваіх кіраўнікоў.

Адмоўную і, трэба дадаць, што вельмі крытычную ацэнку супрацоўніцтва прадстаўніка ГП Я. Морданя з настаўнікамі ў галіне арганізоўвання і правядзення конкурсаў сярод школьнай моладзі далі самі зацікаўленыя — педагогі. Яны не маглі сцярпець таго, як непаважна адносіўся да сваіх службовых абавязкаў і да саміх настаўнікаў спомнены працаўнік ГП. Таму і яны выказалі якраз на канферэнцыі сваю незадаволенасць, і папрасілі вызваліць іх з-пад апекі асобы, з якой не бачаць магчымасці супрацоўнічаць на культурнай ніве.

На канферэнцыі вырашана ў далейшым праводзіць конкурсы для школьнікаў, але ўжо без Я. Морданя.

На гэтым справаздача з канферэнцыі ставіць кропку. Ён нічога не вырашае. Ён толькі інфармуе аб тым, што было.

(Я. Ц.)

**********************



## Свойскія малюнкі



*Беласток.*
*Вул. Л. Заменгафа*
Мал. У. Петрука

****************************************************************

### Т. КАНВІЦКІ АБ МЕНШАСЦЯХ

У святочным суботне-нядзельным выданні „Gazety Wyborczej" ад 7—8 снежня 1991 года была змешчана размова **Адама Міхніка** з вядомым пісьменнікам **Тадэушам Канвіцкім** („Na świecie jestem przejazdem", str. 10—15). У гэтым вялікім інтэрв'ю закранаціся праблемы нацыянальных меншасцяў. Ніжэй друкуем фрагмент выказванняў пісьменніка.

**—Dlaczego musiałeś... napisać o mniejszościach narodowych? Są ludzie, którzy mówią, że to jest w Polsce sztuczny temat, wywoływany dla antypolskich celów.**

— Wszystkie czasopisma poświęcone naszej szlachetnej martyrologii mówią o nieprawdopodobnych zbrodniach dokonanych na naszym społeczeństwie. Natomiast prawie w ogóle się u nas nie pisze, co myśmy złego zrobili.

**— A co takiego złego myśmy zrobili?**

— Widzę, że ty jak lekarz wbijasz mi skalpel w wątrobę, chcesz mnie sprowokować. Otóż, jak się czyta białoruskie dokumenty, białoruskie piśmiennictwo historyczne, litewskie, ukraińskie, to widać i nasze wielkie winy. Trudno mnie, człowiekowi stamtąd, czytać na przykład wspomnienia ziemianina spod Mohylewa. Jak on po arkadyjsku żył, jak to było cudownie, jak potem straszni chłopi wpadli i katowali, rabowali, palili jego dwór. Trzeba pamiętać, że myśmy tam byli jednak kolonizatorami. Ja bronię nas przed zarzutem polonizacji. Ta polonizacja była samorzutna, nie była urzędowa, zorganizowana. Tak się złożyło historycznie, że cywilizacja i kultura szły z Zachodu.

Jeśli chodzi o Białoruś, była ona wyjątkowo nieszczęśliwa i niezdolna do obrony. Była przez nas traktowana paternalistycznie. Myśmy się zawsze dziwili, jak to jest, że nas nie kochają? Dlaczego nas nie kochają, kiedy my jesteśmy i mili, i sympatyczni, i szlachetni?

Ja oczywiście nie wiedziałem, że Wilno bylo podminowane przez wpływy białoruskie — komunistyczne. Widocznie im się komunizm wydawał w ich strategii narodowej skuteczny. Sparzyli się na tym bardzo. Ale ja nie miałem pojęcia, że tam tyle się działo pod spodem. Pacyfikacja Ukraińców, te wszystkie rzeczy, które wykonywał naród — na co słusznie zwraca uwagę Dąbrowska — który zaledwie parę lat cieszył się wolnością i niepodległością.

Sprawa odpowiedzialności za złożenie do grobu Rzeczpospolitej jest oczywiście bardzo skomplikowana. Miał troche racji Jasienica, jak przedstawiał europejskie, schludne, jakoś zorganizowane państwo polskie, które w wyniku rozwoju politycznego w tej części Europy, dochodzi do wniosku, że trzeba wejść w unię z Wielkim Księstwem Litewskim. Mocarstwem, w którym Litwa stanowi ułamek, a reszta to są podbite księstwa ruskie. Społeczeństwo polskie nagle zlalo sie z żywiołem bizantyjsko-wschodnim, pogańskim. I to wszystko zaczęło na nowo formować obywateli Rzeczpospolitej Obojga czy Trojga Narodów. Oczywiście, ze wiele cech, które byśmy potępiali, wzieliśmy od nich. Tego nauczyli nas bracia Rusini, owego bracia Litwini. A potem to się stało norma i naszym charakterem narodowym.

Teraz, kiedy odzyskujemy niepodległość, a ci nasi bracia są w gorszej kondycji, bardzo nadwyręeżni przez okrucieństwo historii, powinniśmy na nich chuchać i dmuchać. Więcej, powinniśmy przestać im wytykać i odszczekiwać się. Powinniśmy pozwolić się oskarżać. Oczywiście, od czasu do czasu ktoś, kto ma kredyt zaufania, powinien spróbować im przemówić do rozsądku. Uważam na przykład, że to jest niedobrze dla Litwinów, że atakują na Wileńszczyżnie legendę AK.

****************************************************************

**Ян Чыквін**

# БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНЫ РУХ У ПОЛЬШЧЫ

Беларускае літаратурнае аб'яднанне ў Польшчы — найстарэйшая ўвогуле ў краіне літаратурная група — існуе ўжо трыццаць тры гады. Проста не верыцца, што так хутка і так многа часу мінула ад таго першага з'езда 8 чэрвеня 1958 года, калі ў Беластоку сабраліся, нікому тады яшчэ невядомыя, прадстаўнікі розных пакаленняў, любіцелі і пачынальнікі прыгожага пісьменства, каб арганізацыйна аб'яднацца ды напачатак афіцыяльна-адміністрацыйна заявіць аб сваёй прысутнасці ў культурным і грамадскім жыцці Беласточчыны.

Як сёння помню тую тадышнюю святочную атмасферу, што спавіла, як мне здавалася, нейкай спакуслівай таямніцай і стары горад і ўсе закуткі канферэнцыйнай залы дома друку, дзе адбываўся з'езд. Зышлося-з'ехалася чалавек дваццаць. Нарада яшчэ не пачалася. Саўдзельнікі адны другім пачціва кланяліся, паціскалі рукі, няголасна размаўлялі. Я быў навучнёўску збянтэжаны, хоць недзе ў душы расцвітала кволая ружа ашчасліўленасці, што і мне вось, бельскаму ліцэісту, дазволілі пераступіць гэтыя высокія парогі храма мастацтва, дзе неўзабаве адбудзецца жрэцкі абрад прычашчэння.

На сэрцы палягчэла, калі сярод прысутных я распазнаў галоўнага рэдактара „Нівы", на старонках якой ужо друкаваліся мае вершы і апавяданні. Задоўга да таго з'езда галоўны вылаўліваў з натоўпу — у беларускіх гарадах і вёсках — тых, хто заявіў аб сабе літаратурнымі спробамі. Ён таксама і мяне адшукаў, хоць — як большасць маладых людзей — спачатку я настойліва падпісваўся мудрагелістымі псеўданімамі. Потым галоўны „Нівы" яшчэ лістоўна запрашаў мяне наведаць рэдакцыю, каб пагутарыць аб маім апавяданні „Бобікава падзяка"... Цяпер жа рэдактар як бы не прыкмячаў таго аўтара куртатай „Бобікавай падзякі". Яго акружаў вяночак дбайна апранутых таварышаў, якім ён штосьці жэстыкулюючы тлумачыў і тыя ветліва ківалі яму галовамі.

Тады не вельмі трымалася ў маёй памяці яго прозвішча, не ведаў я, што Г. Валкавыцкі закончыў у Маскве Літаратурны інстытут. Фактычна цягнуўся я не да яго, а неўсвядомлена ў той час, як пачны матыль лянеў на распалены ім звабны агеньчык „Нівы", дзе можна было друкаваць свае творы.

„Ніва" рашучым чынам, як слушна падкрэсліла ў сваім эсэ „Сучасныя беларускія пісьменнікі ў Польшчы" Шырын Акінэр, паўплывала на беларускае культурнае жыццё. Яна стварыла новае пачуццё ўзаемнага даверу, адчыніла новыя шляхі паразумлення і адчыніла форум абмену думкамі ды поглядамі наконт нацыянальнае гісторыі і культуры".

О, колькі ж абудзіла яна ў нас, пятнаццаці-шаснаццацігадовых юнакоў і юніц шляхетных мысляў і пачуццяў пра свой народ і яго культуру. Навучэнцы беларускіх ліцэяў, мы амаль адзін да аднаго выпісвалі „Ніву" і чыталі ўсенькія яе калонкі, бо ў ёй усё было надта ж свежае, цікавае. Вельмі канкрэтным матэрыялам, узятым, так сказаць, з нашага панадворка, з нашай вуліцы, „Ніва" адначасна пашырала і запаўняла прасветы нашай нацыянальнай свядомасці.

Калі зараз перагартаць гадавікі тыднёвіка, тыя найсамперыя, з 1956, 1957, 1958 гадоў, уразіць першнаперш мноства закранутых на яго старонках літаратурных тэм. Апрача перадруку мастацкіх твораў буйных

Помнікі культуры

# ЦАРКВА Ў СТАРАСЕЛЬЦАХ

Старасельцы — сёння квартал Беластока. У пісьмовых крыніцах з 1580 года значацца яны як Стара Весь (Старая Вёска). Перыяд буйнага развіцця мясцовасць перажывала ў апошніх дзесяцігоддзях XIX ст., калі пасля пабудавання чыгуначнай лініі Беласток—Граева—Аўгустаў, у пяці кіламетрах ад Беластока, на грунтах вёсак Клепачы і Старасельцы ўзнік чыгуначны мостабудаўнічы завод. Рабочыя гэтага завода сталі будаваць тут дамы і пасёлак з цягам часу пераўтварыўся ў гарадок чыгуначнікаў.

У 1898 годзе пачалася пабудова мураванай царквы. Дзеля гэтага было сабрана 5158 рублёў. Царкву святых апосталаў Кірылы і Мяфодзія высвяцілі 15 ліпеня 1901 г. Асобна была ўзведзена драўляная званіца. Мураваны прыходскі дом быў пабудаваны ў 1905 г. Паводле „Клировых Ведомостей” з 1910 г. пад сялібай было 2575 кв. сажняў прыходской зямлі, а пад могільнікам — 2400 кв. сажняў. Усяго 2 дзесяціны і 175 кв. сажняў.

У 1911 годзе на сродкі прыхаджан на могільніку была пабудавана мураваная капліца Успення ПДМ і драўляны дом для стоража.

Перыяд І сусветнай вайны поўнасцю дэзарганізаваў жыццё ў прыходзе. Прыхаджане масава выехалі ў глыб Расіі. Бежанства працягвалася некалькі гадоў.

У 1919 г. улады Рымска-каталіцкага касцёла ў рамках рэвіндыкацыі адбіраюць у праваслаўных царкву святых Кірылы і Мяфодзія каля вакзала ў Старасельцах разам з прыхадскім домам і іншымі будынкамі.

Паводле даведнікаў, у міжваенны перыяд гарадок Старасельцы налічваў каля 3500 жыхароў, у тым ліку 537 беларусаў і расейцаў, 79 яўрэяў, 47 немцаў, астатнія — палякі. Лік праваслаўных пастаянна ўзрастаў і капліца на могільніку не памяшчала вернікаў. У 1928 годзе настаяцель прыхода ў Харошчы а. Вячаслаў Лапатынскі шчасліва пераадолеў цяжкасці і здолеў разбудаваць капліцу. Аднак вернікі не дабіліся дазволу аднавіць праваслаўны прыход у Старасельцах. Былі спробы неаўніятаў адабраць праваслаўным царкву, але скончыліся яны няўдачай. Ад 1932 г. Старасельцы прыналежаць прыходу св. Мікалая ў Беластоку.

У час ІІ сусветнай вайны ў прыходзе пастаянна былі духоўныя. У 1953 г. быў пабудаваны драўляны прыхадскі дом. У 1959 г. пабольшана могільнік на 174,8 кв.м. і сёння плошча могільніка складае 12426 кв.м., а сяліба — 2783 кв. м.

Царква на могільніку моцна пацярпела ў час ваенных дзеянняў і патрабавала неадкладнага рамонту. Старанні настаяцеля а. Аляксандра Куднін-Кірковіча не знайшлі падтрымкі ў тагачасных улад. Толькі пад канец 60-х гадоў настаяцель а. Міхал Хомчык, дзякуючы безупынным петыцыям, атрымаў дазвол на капітальны рамонт, што ў выніку прывяло да ўзнікнення новай прыгожай царквы паводле праекта Міхала Балаша. Інтэр'ер пакрыты паліхроміяй, якой аўтарам з'яўляецца Юзэф Латоўскі. Працы вяліся ў 1972—1979 гадах. Дзякуючы намаганням таго ж настаяцеля былі ўпарадкаваны могільнік і царкоўная сяліба, а прыхадскі дом — разбудаваны паводле праекта М. Балаша.

У 1985 г. настаяцель а. М. Хомчык быў назначаны вікарным кафедры св. Мікалая ў Беластоку, а прыход у Старасельцах на працяг 4 гадоў пераймае а. А. Беразавец. У снежні 1989 г. прыход пераходзіць пад апеку а. Яна Троца, які пасняхова працягвае старанні за ўтрыманне прыхадскіх нерухомых маёмасцяў у належным стане.

**Р. С.**





*Царква ў Старасельцах перад і пасля разбудовы.*
**Малюнкі Яраслава Троца.**

беларускіх пісьменнікаў, чыя класічная творчасць была тады для нас альбо малавядомая, альбо ў Польшчы маладаступная шырокаму колу чытачоў; апрача частых таксама публікацый вершаў і апавяданняў маладшых беларускіх творцаў ці эміграцыйных пісьменнікаў, „Ніва” даўжэйшы час рэгулярна змяшчала артыкулы з цыкла „З гісторыі беларускай літаратуры”, „З гісторыі беларускага народа”, „Гутаркі аб мове”. Ніводзін школьны падручнік не быў так багаты фактамі, як тадышняя „Ніва”. Тут жа друкаваліся новыя, абгрунтаваныя доследы вучоных пра польска-беларускія літаратурныя ўзаемасувязі, успаміны грамадска-палітычных дзеячоў Заходняй Беларусі. Многа месца адводзілася знакамітым майстрам паэтычнага перакладу — з беларускай мовы на польскую (яны ў „Ніве” друкаваліся лацінкай) і з польскай мовы на беларускую. Побач гэтага чытач мог пазнаёміцца з запіскамі фальклорнай творчасці, мог даведацца аб праведзеных літаратурных вечарах, аб плане стварэння ў Беластоку беларускага драматычнага тэатра, і іншых падобных мерапрыемствах.

Як бачым, „Ніва” пачала сваю дзейнасць з высокага ідэйнага ды эстэтычнага і асветніцкага ўзроўню. Матэрыялы нават не літаратурныя былі старанна адрэдагаваныя і мелі тую ж літаратурную афарбоўку. Або мне так здавалася. Ва ўсякім выпадку на працягу кароткага часу „Ніва” паказала нам багацейшую традыцыю беларускага народа — ад Еўфрасінні Полацкай і Ф. Скарыны да творчасці нашых суайчыннікаў. Нам перадавалася вялікая спадчына. І мы станавіліся відушчымі.

Станавіліся відушчымі ад чытання, вядома, не толькі аднае „Нівы”. Усе мы на польска-беларускім узмежку (ці шырэй — на славяна-неславянскім паграніччы) як мінімум людзі білінгвальныя, двухмоўныя, а то й болей моўныя. Мае на нас уплыў і заходняя культура. Але „Ніва” тады мела для нас тую прыцягальную моц, што была адзіная свая газета — і як родная маці карміла нас сваім малозівам і стварала творчым адзінкам магчымасць нармальнага росту. І нічога дзіўнага, што маючы пад нагамі цвёрдае гістарычна-культурнае апірышча і перспектыву далейшага развіцця, у клімаце разбуджаных нацыянальна-культурных патрэб (дзейнічалі шматлікія школы з беларускай мовай навучання, беларускае радыёвяшчанне, танцавальныя і харавыя калектывы) з трохсоттысячнага беларускага насельніцтва ў Польшчы вылучыліся свае паэты, празаікі, драматургі, летапісцы-гісторыкі, перакладчыкі, журналісты, вучоныя.

Беларускі літаратурны рух у Польшчы ствараўся не толькі пачаткоўцамі, здольнай моладдзю, часта яшчэ вучнямі беларускіх школ, тымі, хто задэбютаваў ці вось-вось меўся апублікаваць свае першыя творы на старонках „Нівы”. На выхад у Польшчы беларускага тыднёвіка і магчымасць на яго старонках друку хутка адгукнуліся і тыя, хто, як на прыклад Віктар Швед, распачаў сваю творчую дарогу ў саракавых гадах, і тыя, што, як напрыклад Антон Васілеўскі, плённа друкаваліся ўжо ў дваццатых гадах. Адгукнуліся на выхад у 1956 годзе „Нівы” і яшчэ іншыя — адметныя постаці з народу, адвечныя шукальнікі дабра, праўды, справядлівасці, характа: Васіль Юравец, Аляксандр Каленік, Аркадзь Ляўшук, Уладзімір Сасім, Сцяпан Луневіч, Хведар Хлябіч. Яны — народныя творцы-паэты — мелі ў „Ніве” сваю асобную рубрыку „Ад родных ніў”. З дакладнасцю летапісцаў яны адлюстроўвалі ў сваіх абразках-вершах ды замалёўках сялянскую зжытасць з роднай зямлёй, побытам, мудрасць жыцця простых людзей.

Такімі самародкамі ўвогуле багата беларуска-беластоцкая зямля — не толькі паэтамі, але й мастакамі-жывапісцамі, разбярамі, дойлідамі, музыкантамі, спевакамі (Ірына Бярозка, Марыя Корсак, Аглая Артышэвіч, Люба Красоўская, Уладзімір Гарустовіч, Уладзімір Наумюк, Ніна Мушынская, Ала Дубец). На жаль для беларускай культуры яны амаль невядомыя. „Наш невыараны залаты скарб” — назваў іх Г. Валкавыцкі. Яны сведчаць аб вялікім творчым патэнцыяле беларускага насельніцтва ў Польшчы.

Дык вось на старонках „Нівы”, ад самага яе пачатку раз-пораз паяўляліся літаратурна-мастацкія творы такіх аўтараў, як Андрэй Сошка, Уладзімір Гайдук, Дзмітры Шатыловіч, Віктар Швед, Мікалай Буцылін, Янка Беразавец, Уладзімір Дарашкевіч, Мікола Базылюк, Антось з Лепля, Васіль Баршчэўскі, Янка Дубіцкі, Сакрат Яновіч, Пётр Ластаўка, Вінцук Склубоўскі, Лявон Вагурка, Сымон Раманчук, Зося Бусловіч, Яша Бурш, Алесь Свісёк, Алесь Барскі, Віктар Рудчык, Юрка Зубрыцкі, Лявон Майсеюк і шмат хто яшчэ.

Вось чаму ад 14 красавіка 1957 года „Ніва” рытарычна пытала: „А ці ж наша літаратурная спадчына не чакае

**( Працяг на стар. 6 )**



*Аркадзь Якімюк на летніку „Грунвальд" ( 16.08.1991 ).*

# Гданьская хроніка

Рыхтуючыся да адкрыцця чарговага культурна-асветнага года (12.X.1991 г.) пералістала я карткі свайго календара, каб нічога не абмінуць у справаздачы за мінулы год. Аб некаторых здарэннях пісала я ў „Ніву". Зараз прапаную пазнаёміцца з тым, што ў нас дзеялася ад красавіка гэтага года.

**19 красавіка.** У ратушы ў Гданьску ўкраінцы арганізавалі навуковую сесію на тэму Берасцейскай уніі. Мяне запрасілі таксама. Былі там: праф. Уладзіслаў Сэрчык, даволі многа уніяцкіх і каталіцкіх святароў — айцец Рыгор Сасна і недзе каля 30-ці слухачоў. Ад нас была яшчэ Аня Іванюк з мужам. Погляды, акрамя Рыгора Сасны, на тэму уніі даволі тэндэнцыйныя. Увечары ўдалося на хвілінку забраць у клуб айца Рыгора Сасну. Па сённяшні дзень захапляюся гэтым чалавекам. Шкада, што сярод нашых святароў мала хто разумее беларускую справу ў царкве.

**20 красавіка.** Прыехаў паэт Ян Чыквін. Прывёз кніжкі „белавежцаў". Распавядаў пра „Белавежу" і чытаў свае вершы. Засядзеліся даволі доўга. Паэзія Чыквіна адпавядае мне; знаходжу ў ёй — што хачу знайсці.

**17—18—19 мая.** Падарожжа ў Вільню на перахаванне Івана Луцкевіча. Едзе нас 7 асоб. У Вільні хутка нас разбіраюць па хатах. Я еду з Людвікай Кардзіс да яе пакойчыка ў інтэрнаце. У суботу спатканне на могільніку Роса. Уражанні несамавітыя. З Беластока, акрамя сям'і Латышонкаў і Міры Лукшы, нікога няма. Але ж сорам! Імша ў катэдры, абед, шпацыр па Вільні, урачыстая вечарына назаўсёды астануцца ў памяці.

На вечарыне дэбютавала Эля Мацкевіч. У нядзелю едзем у Трокі. Цудоўна! Я пазнаёмілася з Алегам Аблажэям — мастаком.

**25 мая.** Дзень маці. Вядзе ўрачыстасць Эля Мацкевіч.

**30 мая.** Едзем над мора ў Марскую Крыніцу, дзе праводзім цэлы дзень: вада, вогнішча, піва.

**1 чэрвеня.** Дзень дзіцяці. Распешчваем свае дзеці кветкамі, марожаным. Няхай памятаюць, што ў іх свята.

**14 чэрвеня.** Раздаем „цэнзуркі" нашым дзецям, якія вывучалі беларускую мову. Канец навукі ў гэтым годзе. На ўзнагароды „Беларускія народныя казкі".

**21 — 30 чэрвеня.** Рэйд па Беласточчыне: Супрасль — Беласток—Белавежа— Гайнаўка— Махнатае—Бельск-Падляшскі— Дубяжын. 23 чэрвеня выступалі нашыя „Жаваранкі" на свяце Беларускай культуры. Найлепш нам было ў Супраслі ў доміку Латышонкаў, за што ім вялікае дзякуй! Беларускую мову чулі штодзень — нават у Супраслі. У Белавежы даведаліся, што жывуць там самыя беларусы (у сакрэце сказала нам гэта мясцовая жанчына). Не было дня без уражанняў.

**1—7 ліпеня.** У Гданьск прыехала першая група дзяцей з Беласточчыны: з Ласінкі і Беластока. Гэты прыезд дзяцей над мора прыдумалі яшчэ вясной я і Віктар Стахвюк. Дзеці пабачылі Гданьск, Сопат, Аліву, Гдыню, Вестэрплятэ. Даволі многа, як на 5 дзён. Дзеці з Ласінкі былі цудоўныя, увесь час размаўлялі пасвойму. Горш было з беластачанамі, асабліва з некаторымі, якія залезлі за скуру не толькі мне, але і дзецям.

**12—13—14 ліпеня.** Басовішча. Не прыехаў ніхто з Вільні. З Гданьска толькі Іра Гаданчук. Дзяўчаты не адважыліся прыехаць або бацькі не пусцілі. Няхай шкадуюць экстазы рока, кахання і піва!

**7—22 жніўня.** Летнік „Грунвальд" над Менскам. З намі дзеці з Беласточчыны: з Орлі, Чыжоў, Беластока. З апекуноў, апрача мяне: Пётр Карзуновіч (увечніў летнік на відэастужцы) і студэнтка Іза Адзіевіч. Працоўнай мовай на летніку была беларуская. На жаль, не выказаліся ёю дзеці з Беласточчыны. Усе расхвальвалі нашых „дзевак" — асабліва Мацкевічанак за іхнюю беларускую мову і высокую нацыянальную свядомасць. Кіравалі летнікам: Алесь Лозка (маршалак земскі), Алесь Шылевіч (маршалак дворны) і Валеры Брыкоўскі (канцлер). Мы жылі ў „Полацку". Былі яшчэ Віленская, Навагрaдская і Менская харугвы. 17 жніўня (у суботу) адбылося вялікае Грунвальдскае відовішча. Былі вуякі ў зброі, князь Вітаўт на кані, „Багародзіца" ў выкананні Паўла Лаўрашука, змаганне вершнікаў і падобнае. У грунвальдскім змаганні перамагла нашая харугва — Полацкая. Былі на экскурсіі ў Менску. Бачылі Троецкае прадмесце, Верхні горад, помнік Багдановічу, Курапаты, касцёл св. Роха і горад з вакон аўтобуса. Шкада, што не паспелі на Кальварыйскія могілкі ў Менску і ў Нясвіж. 19 жніўня — путч у Маскве. 21 жніўня званіць Віктар Стахвюк і просіць, каб мы вярталіся ў Польшчу. Мы не ў стане яго пераканаць, што тут спакойна і практычна ўжо хунта ўпала. 22 жніўня ад'язджаем на пяць дзён раней. Сёння мелі ехаць у Нясвіж. Дзеці плачуць — ніхто не хоча выязджаць. Вяртаемся праз Мір — адбудоўваецца Мірскі замак.



*Летнік „Грунвальд". Пераможцы грунвальдскага відовішча.*

******************************************************

ЯН ЧЫКВІН

# БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНЫ РУХ У ПОЛЬШЧЫ

**( Працяг са стар. 5 )**

выдаўца? Ці ж бедныя мы талентамі, якія просяцца ў свет?" І там жа сцвярджала: „Для далейшага развіцця беларускай культуры ў Польшчы стварэнне выдавецкага фонду з'яўляецца жыццёвай неабходнасцю". Праз пару добрых месяцаў вёўся затым пералік ахвяравальнікаў на ўспомнены фонд. А неўзабаве прагучаў і яшчэ адзін станоўчы голас. У тыднёвіку ад 9 лютага 1958 года паявіўся артыкул пад вымоўным загалоўкам: „Беларускім паэтам і пісьменнікам у Польшчы патрэбна свая арганізацыя". Ну і ад 15 чэрвеня 1958 года „Ніва" ўжо інфармавала сваіх чытачоў: „У нядзелю 8 чэрвеня (1958) у Беластоку адбыўся арганізацыйны з'езд Беларускага літаратурнага аб'яднання (...). З'езд паклікаў праўленне і прыняў статут аб'яднання. Пастаноўлена, што аб'яднанне будзе гуртавацца пры „Ніве" і будзе выдаваць літаратурную старонку".

Вось так паявіліся фармальныя рамы таго беларускага літаратурнага руху, які праз чатыры гады, у 1962 годзе, прыняў назоў „Белавежа" і якому ў гэтым годзе споўнілася трыццаць тры гады.

На трыццаць другім годзе свайго існавання беларускі літаратурны рух вылучыўся са структуры Беларускага грамадска-культурнага таварыства, якой быў асветніцкай часткаю, і стаўся юрыдычна самастойнай літаратурна-творчай арганізацыяй — са сваім праўленнем, сваім статутам ды банкавым рахункам.

Дзякуючы гэткай незалежнай дзейнасці і фінансавай дапамозе Міністэрства культуры ў Варшаве, „Белавежа" змагла ўжо — на працягу даслоўна пяці месяцаў (чаго раней не было і быць не магло з прычыны хаця б валакіцтва цэнзуры) — выдаць чатыры паэтычныя зборнікі: Надзеі Артымовіч „Сезон у белых пейзажах", Уладзіміра Гайдука „Блакітны вырай", Віктара Шведа „Родны схоў" і Зосі Сачко „Над днём пахіляна" — том успамінаў былога галоўнага рэдактара „Нівы" Г. Валкавыцкага „Віры", агульным тыражом звыш шасці тысяч экземпляраў.

Праз пару месяцаў выйдзе з друку двухмоўны, беларуска-польскі, альманах „Гасцінец". Рыхтуюцца да выдання кніжкі апавяданняў М. Лукшы і рана памершага Ю. Геніюша, а таксама кніга эсэ аб паэтычнай творчасці „белавежцаў" польскай даследчыцы Тэрэсы Занеўскай. Падрыхтаваны да друку альманах маладых нашых літаратурных сіл.

Варта адзначыць, што ў гэтым яшчэ годзе і наступным выдавецтва „Мастацкая літаратура" ужо апублікавала або апублікуе творы С. Яновіча, В. Петручука, М. Гайдука, Н. Артымовіч, А. Барскага, М. Шаховіча ды выдатны твор Дж. Джойса „Уліс" у перакладзе „белавежца" Яна Максімюка. Дадайма, што і польскія выдавецтвы ў бліжэйшым часе выдадуць кнігі „белавежцаў", м.інш. А. Барскага і С. Яновіча.

Тры мінулыя дзесяцігоддзі, на жаль, трэба сказаць, не былі такімі спрыяльнымі для публікацый творчасці „белавежцаў", як апошнія пару гадоў. Не былі спрыяльнымі з прычыны і фінансавай нястачы, і гвалту цэнзараў, і самахоці нацых і чужых адміністратараў, і ўрэшце не зацікаўленасцю тым, як мы жывем нашай супольнай маці-айчыны. Таму беларускі літаратурны рух у Польшчы развіваўся надта памалу. Чужынцы яго паўстрымлівалі і размывалі, а некаторыя свае чыноўнікі значэнне творчых дасягненняў памяншалі, зводзячы іх да звычайнай аматаршчыны. Аднак жа жывога росту нельга было паўстрымаць. На працягу спомненага мінулага часу шмат самых розных па жанру твораў „белавежцаў" надрукавана і ў „Літаратурных старонках" (штомесячны дадатак у „Ніве"), і ў календарах, якія рэгулярна выходзяць на беларускай мове ў Беластоку з 1957 года, і ў альманахах, і ў польскіх часопісах, і ў часопісах менскіх. І што найважнейшае, „белавежцы" выдалі каля шасцідзесяці аўтарскіх зборнікаў паэзіі, прозы, сцэнічных твораў,(без уліку мастацкага перакладу). Сёння ўжо можна гаварыць пра паасобныя сфармаваныя творчыя індывідуальнасці, пра пісьменніцкі стыль, пра ідэйныя ды літаратурна-эстэтычныя канцэпцыі.

Беларускі літаратурны рух у Польшчы паявіўся ў так званым „разлікавым" перыядзе, які пачаўся ў краіне 1956 годам. Хоць творчасць беларускіх літаратараў не супадала з той тагачаснай аспоўнай тэндэнцыяй польскай літаратуры, то „белавежцам" выдатна адпавядала агульная атмасфера грамадска-палітычнай

 

Шкада, што не паспелі прыгледзецца яму зблізку. Не было калі або не было чым даехаць. У Кузніцы чакае нас Віктар. Мае пытанні наконт паспешнасці ў вяртанні і наконт „кваліфікавання" дзяцей і апекуноў у летнік астаюцца без задавальняючага мяне адказу. Нашым дзеткам увайшло ў галаву, што каб „заслужыць" на такую паездку неабавязкова размаўляць па-беларуску і мець беларускую нацыянальную самасвядомасць, выступаць у конкурсах і заваёўваць там першыя месцы. Можна паехаць не робячы нічога, не ведаючы, што гэта такое Курапаты, „Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг. Аднак мы паказалі дзецям казку „Песенны кірмаш", часта выступалі Эля і Кася Мацкевічанкі. Дасканала запрэзентаваліся Юля Карзуновіч і Аркадзь Якімюк з Чыжоў.

**2 верасня.** Прыехаў Алесь Максімюк і зарэгістраваў у Акруговай выбарчай камісіі ў Гданьску кандыдатаў у Сейм РП ад Беларускага выбарчага камітэта. На спіску Міхась Куптэль, Аня Іванюк, Пятро Прышчэпка, Міхась Касцюкевіч, Юры Буцкі і нейкі Германюк з Беласточчыны. Іра Гаданчук зарэгістравала таксама спісак БВК у Кашалінскай акрузе.

**6 верасня.** Спатканне ў Гданьскага віцэ-ваяводы, супольна з украінцамі. Сустрэча мела палітычны характар. Юзэф Бажышкоўскі кандыдуе ў Сенат РП. Увечары пачынаем урокі беларускай мовы. Распавядаем пра летнія ўражанні. У гасцях таксама Мікола Таранда і Валодзя Кіслы з Гародні. Багаты дзень!

**20 кастрычніка.** У царкве св. Мікалая павянчаліся Эва Паўлюк і Міраслаў Матысюк, члены БАСу і дзеячы беларускага асяроддзя ў Гданьску. Мы там былі, мёд і віно пілі, да раніцы гулялі, і маладой пары шчасця і „басікаў" жадалі.

**26 кастрычніка.** Спатканне з Аннай Сабэцкай з Польскага радыё ў Гданьску. Распавядала яна пра свой удзел у Кангрэсе беларусістаў і пабыўку на Беларусі. Поўнае разуменне беларускай спецыфікі, што рэдка здараецца ў журналісцкім свеце.

**29 кастрычніка.** „Дзеннік Балтыцкі" падае вынікі выбараў у Гданьскай выбарчай акрузе. Найбольш галасоў атрымалі: Кангрэс ліберальна-дэмакратычны (16,95%), „Салідарнасць" (14,23%), Дэмакратычная унія (10,04%). Мы атрымалі толькі 379 галасоў (0,076%), Выбарчы блок меншасцяў — 593 галасы (0,12%). Гэта мала, каб атрымаць мандат пасла ў Сейм РП, але не так мала ў параўнанні з блокам меншасцей, дзе, як кажуць украінцы, іх магчымасці ў Гданьскім ваяводстве найбольшыя.

**ЛЕНА ГЛАГОЎСКАЯ**



*Вянчаюцца Эва Паўлюк і Міраслаў Матысюк( 20.10.1991 г. ).*

### ВЕСТКА З ОЛЬШТЫНА

Мы, ольштынскія беларусы, бярэм прыклад з гданьскіх калегаў і таксама не спім у шапку. З мэтай актывізацыі нашага асяроддзя я, Уладзімір Пац і Міраслаў Урбановіч плануем стварыць тэрытарыяльную раду БДА. Сход прыхільнікаў БДА адбудзецца 12 студзеня 1992 г. у акадэміку Сельскагаспадарчай школы.

**Андрэй Гаўрылюк**

## НАШЫ КАРАНІ

### XXIV. ІМЁНЫ ІХ ТВОРЦАЎ ТОЛЬКІ БОГУ ВЯДОМЫ

Дагэтуль мы гаварылі пра вядомых нам па імю, творах і подзвігах дзеячах Праваслаўнай Царквы на беларускіх землях у XI-XII стагоддзях. А колькі ж іхніх імёнаў не захавалася, не дайшло да нас і засталося вядомых толькі Госпаду? Здзяйсненні іх мысляў і рук або бясследна загінулі ў пажарах ці іншых нягодах, або захаваліся ў нямногіх фрагментах, безыменных рэштках. Памятаймa ж, што ў XI-XII стагоддзях на беларускіх землях цэркваў было многія сотні, калі не болей тысячы, манастыроў — дзесяткі. І ў кожным храме і ў кожнай манаскай абіцелі для Божай справы працавалі свяшчэннікі, дыяканы, манахі і манахіні, свецкія людзі, — значыць: тысячы людзей. Усюды былі богаслужэбныя кнігі і іншая хоць бы асноўная духоўная літаратура, іконы, літургічнае начынне і іншыя прадметы богаслужэбнага прызначэння, і ў залежнасці ад заможнасці прыходу — рэзьблены ці па-мастацку выкананы іканастасы, аклады і іншае прыбранне іконаў, фрэскі і другі насценны жывапіс. Але трагедыя ў тым, што храмы і манастыры, як і ўсе тадышнія пабудовы, узводзіліся ў асноўным з дрэва, і агонь ды час не ашчаджаў іх — яны ўсе загінулі, не дайшлі да нас. Загінула таксама і амаль усё, што знаходзілася ў іх. Захаваліся толькі мураваныя збудаванні і то не ўсе, да таго іх не было многа.

Найбольш старажытным мураваным храмам на беларускіх землях быў Сафійскі сабор у Полацку, пабудаваны невядомым архітэктарам перад 1060 годам. Гэта быў велічны, прыгожы храм, які сваёй велічынёй і багаццем раўняўся са славутымі Сафійскімі саборамі ў Кіеве і Вялікім Ноўгарадзе, але адрозніваўся ад іх арыгінальнай архітэктурай. На жаль, ён потым перабудоўваўся і ягоны першапачатковы выгляд цалкам змянілі уніяты. У наступным, XII стагоддзі паўсталі каля Полацка мураваныя: сабор у Бельчыцкім манастыры і храм-пахавальня ў Спасаўскім манастыры, у Віцебску — Благавешчанская царква, у Наваградку — храм святых Барыса і Глеба, у Гародні — царква Барыса і Глеба на Каложы, цэрквы ў Тураве і Ваўкавыску, святыні Смаленска. Усе гэтыя храмы былі аздоблены багатым сценапісам з высокамастацкімі абразамі Ісуса Хрыста, Божай Маці, святых архангелаў і ангелаў, апосталаў, падзвіжнікаў. Гэта былі творы натхнёныя, выкананыя з вялікім майстэрствам, не ўступалі лепшым узорам тагачаснага еўрапейскага мастацтва.

Таксама лёс старажытных рукапісаў на беларускіх землях трагічны. Амаль усе яны загінулі падчас пажараў, войнаў і іншых няшчасцяў. З мноства богаслужэбных кнігаў да нашага часу захаваліся толькі лічаныя экземпляры. Аднак знаходзіліся і такія астраўкі бяспечнасці, на якіх пратрывала ўсе нягоды нават па некалькі бясцэнных кніг. Адной з такіх захавальніц праваслаўнай культуры быў старажытны Тураў, у ім знайшлі бяспечны сховак аж 4 рукапісы. Сярод іх частка Тураўскага евангелля з XI стагоддзя. Яно паўстала ў скрыпторыі (майстэрні па перапісванню кніг) у самым Тураве. Асоба перапісчыка невядомая, але гэта быў таленавіты мастак, бо кніга аздоблена ініцыяламі (загалоўнымі літарамі), выкананымі густоўна і старанна. У гадах 1078-1086 таксама ў Тураве паўстала пяць славутых мініяцюр з постацямі князя тураўскага Яраполка і яго княгіняю. Мініяцюры памешчаны ў вядомым Кодэксе Гертруды, які цяпер знаходзіцца ў музеі ў горадзе Чывідалі ў Італіі. Па гэтых творах відаць, што над імі „працаваў першакласны майстар-мініяцюрыст, які валодаў багатым арсеналам мастацкіх сродкаў", — піша беларускі мастацтвазнавец В. Шматаў і ставіць пытанне, ці не ў Тураве яны былі створаны, бо мініяцюрыст з'яднаў у іх лепшыя візантыйскія і раманскія мастацкія традыцыі. На беларускіх землях паўстала таксама Евангелле, якое цяпер захоўваецца ў музеі горада Рэймса ў Францыі. З Беларусі паходзіць і Служэбнік Варлаама Хутынскага, які быў выкананы на пераломе XII і XIII стагоддзяў на Полаччыне або Смаленшчыне. У тым жа часе паўстала аздобнае Аршанскае евангелле. Археолагі знайшлі рэзьбленыя ў камені іконкі ў Полацку і Менску, якія паходзяць з XI-XII стагоддзяў.

Усё гэта доказы багатае праваслаўнае духоўнае культуры на беларускіх землях у XI-XII стагоддзях, значыць 800-900 гадоў таму назад.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

адлігі ў Польшчы. „Белавежцы" ад пачатку маглі ствараць і стварaлі свае далягляды, свой мікрасвет, сваю ўласную мастацкую рэчаіснасць, у якой, з аднаго боку, вытончвалася, сублімавалася паэтычная думка, ішлі пошукі агульначалавечых каштоўнасцяў, а з другога боку ў іх творчасць хлынула, так бы мовіць, экзотыка нашай правінцыі, лакальныя элементы разам з яе моўным багаццем ды бытавой свядомасцю.

У гэтых вось колькі дзесяткаў апублікаваных ужо аўтарскіх кнігах, дужа разнастайных па форме і зместу, па-свойму і вельмі цікава адлюстроўваюцца ўсе важнейшыя грамадскія, палітычныя, рэлігійныя ды іншыя праблемы, якія нуртавалі і нуртуюць беларускае насельніцтва ў Польшчы.

На пачатку, калі беларускі літаратурны рух у Польшчы толькі што ўваходзіў у арганізацыйную пойму, быў прыняты, як памятаем, статут аб'яднання. Дрэнна, а мо і не дрэнна сталася для агульнай нашай справы, але „белавежцы" маглі развівацца свабодна — не было зверху прынятых ці накінутых літаратурна-эстэтычных або палітычных канонаў дзеяння.

Значыць, развівалася свабодна. Аднак жа не ішлі кожны ў свой бок. Яднала іх супольная мэта-накіраванасць: разбуджанне нацыянальнай свядомасці, спасціганне гуманістычнай сутнасці чалавечага лёсу і яго эмацыянальна-духовага самавыяўлення. Нават пабежны аналіз творчасці „белавежцаў" выяўляе сумеснасць іх поглядаў на істотныя праблемы сучаснасці, а таксама сумеснасць іх асноўных літаратурна-мастацкіх ды ідэйна-эстэтычных прынцыпаў. Гэта дазваляе ўжо зараз гаварыць аб „Белавежы" як аб усё больш выразным напрамку або школе ў беларускай літаратуры, якую стварае група пісьменнікаў, вылучаных з увагі на блізкасць, падабенства іх творчасці, незалежна ад таго ці самі яны прызнаюцца ў гэтым. Можна сказаць, што ў адрозненні ад сацыялагізаванай і моцна палітызаванай мастацкай літаратуры ў дагэтуляшняй Савецкай Беларусі, „белавежцы" выпрацавалі свае прынцыпы пытання, адказу і маўчання ў сферы палітычнага ды грамадскага жыцця.

„Белавежа" як літаратурная з'ява даўно стала прыкметнай далёка па-за межамі беластоцкага краю, нашай малой айчыны, якую мы наследавалі ад сваіх прадзедаў, на якой жывем па праву, у граніцах натуральнага абсягу беларускай культуры і мовы. Варта прыгадаць, што на выхад у свет у 1959 годзе нашага першага альманаха „Рунь" зычліва адазваліся не толькі „Беластоцкая газета", якая назвала альманах „беларускім падарункам у агульнадзяржаўную скарбніцу культуры", але і „Літаратура і мастацтва", украінская „Наша культура", расейская „Литературная газета", лодзінскі „Русский голос", варшаўская „Трыбуна літэрацка" і „Пшыязнь". Гэтае звышэрэгіянальнае значэнне „Белавежы" пацвердзіла навуковая міжнародная канферэнцыя прысвечаная яе трыццацігоддзю, што праходзіла ў Беластоку — 24 і 25 чэрвеня 1988 года. З дакладамі пра творчасць „белавежцаў" прыехалі выдатныя польскія вучоныя-славісты і пісьменнікі з Варшавы, Вроцлава, Кракава, а таксама з Беларусі і ЗША.

Творчасць „белавежцаў" сваёй арыгінальнасцю, сваёй непаўторнасцю ад пачатку прыцягвала ўвагу як аматараў так і знатакоў прыгожага пісьменства. Многія творы „белавежцаў" ужо перакладзены на польскую, нямецкую, англійскую мовы. Аб пісьменніках „Белавежы" паявіліся біа-бібліяграфічныя занатоўкі ў такіх спецыялізаваных і аўтарытэтных публікацыях як Леха Бартэльскага „Польскі пісажэ вспулчэсні", як „Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі", як The International Authors and Writers Who's Who, Eleventh Edition for 1988, Cambridge. Аб творчасці „белавежцаў" пісалі ў сваіх доследах беларускай літаратуры Ф. Найройтэр у Аўстрыі, А. Макмілін, Ш. Акінэр у Англіі, У. Казбярук, А. Пяткевіч у Беларусі, Т. Занеўская, В. Смашч, Ф. Няўважны, М. Юркоўскі ды многія іншыя ў Польшчы.

Пісалі, таму што творчасць „белавежцаў" з'яўляецца „неад'емай часткай беларускай літаратуры" (А. Пяткевіч), таму што яна выдатна „ўзбагачае польскую літаратуру" (В. Смашч) і таму што „на працягу невялікага часу ўзышла і развілася літаратура рэдкай разнастайнасці ды шчырага натхнення" (Ш. Акінэр).

**Ад рэдакцыі:** *У наступным нумары, як папаўненне гэтага нарыса, надрукуем бібліяграфію „Кніжныя выданні „белавежцаў".*





 

# ПОГЛЯДЫ

## ПРА БАНК І ІНШЫЯ СПРАВЫ

„Ці трэба пераконваць, што банкі — крывяносная сістэма ўсяго эканамічнага арганізму дзяржавы" — кажа Я. Купчын (адзін з распрацоўшчыкаў „Закона аб нацыянальным банку" і „Закона аб банках і банкаўскай дзейнасці") у артыкуле Кастуся Шалястовіча „Аўчынка вырабу вартая" ў „Голасе Радзімы" (н-р 44 ад 31 кастрычніка 1991 г.). Са зместам гэтай публікацыі заахвочваю пазнаёміцца беларускіх бізнесменаў з Беласточчыны. Ёсць там канкрэтныя прапановы і для суайчыннікаў з-за мяжы Беларусі.

Думку пра стварэнне беларускага банка ў Беластоку выказаў я на старонках „Нівы" добрых некалькі гадоў таму назад, калі нікому ў Польшчы яшчэ і не снілася рыначная гаспадарка, а „Салідарнасць" знаходзілася ў глыбокім падполлі. Тады не было ўмоў і грошай для стварэння такога банка і нават рэдактар Г. Валкавыцкі (вельмі прыхільны маім думкам) гаварыў, што ідэі Куптэля мала рэальныя, але чаму ж іх не кідаць у народ.

Прайшло некалькі гадоў і інтуіцыя мяне не падвяла. Чытаю „Голас Радзімы" і так як бы адкрываў сябе нанава.

Але вяртаймася да справы. Ёсць ужо на Беласточчыне (і не толькі) некалькі багацейшых беларусаў, якія калі б спалучылі свой капітал, маглі б без клопатаў стварыць беларускі банк у Беластоку. Не ў Гайнаўцы як бы некаторыя хацелі. Там можна адкрыць яго філію, або ашчадную касу для абслугоўвання навакольных малых прадпрыемстваў або проста сялян. У Беластоку можна знайсці людзей да працы ў такім банку і фірмы, якія карысталіся б яго паслугамі. З Беластока да Гародні толькі некалькі дзесяткаў кіламетраў, а і да Менска таксама недалёка.

Чым займаўся б беларускі беластоцкі банк? Перш за ўсё ўкладамі ад насельніцтва, крэдытамі, захаваннем каштоўнасцей.

Як можна рабіць бізнес з беларусамі з Рэспублікі Беларусь, калі да гэтага трэба проста многа крэдытных грошай, на некалькі, часамі, тыдняў? Каб уявіць праблему, прапаную на разгляд такі вось прыклад. Маю тут у Польшчы заказ на тысячу кубічных метраў дошак на паддоны. У Польшчы гэтых дошак купіць танна нельга. Звяртаюся тады да фірмы ў Беларусі, дамаўляемся і каб здзейсніць кантракт мне трэба 500 мільёнаў злотых. За грашыма іду ў банк, бяру крэдыт, плачу за дошкі беларусам з Беларусі і прадаю іх у нас. Заўважце, што чатыры бакі гэтай здзелкі задаволены. Вытворчае прадпрыемства ў Польшчы не спыніла прадукцыі паддонаў, я зарабіў грошы на гэтай здзелцы, банк атрымаў свае працэнты ад крэдыту, а прадпрыемства з Беларусі прадало свой тавар.

Пачатак усім здзелкам банкавы капітал. Калі ён ёсць, можна развіваць інвестыцыі, спачатку невялікія, такія, якія даюць магчымасць хутка вярнуць уложаны капітал і даюць нават невялікі зыск. Ці ведаеце, што на Гайнаўшчыне, у Махнатым, сярэдняй вёсцы, ёсць два магазіны і не чуў я, каб іх закрывалі, значыць яны даходныя. Летам па вёсцы хтосьці ездзіў грузавіком, купляў яблыкі, многа яблык, і ўсім было выгадна — і прадаўцам, і купцу! На вёсцы можна простым спосабам квасіць агуркі і іншую гародніну, якая тут у горадзе каштуе тысячы злотых, можна кансерваваць садавіну і прадаваць. На вёсках многа будынкаў, якія пустуюць, ёсць вада, і людзі да працы. Проста трэба знайсці арганізатараў малых і зусім маленькіх прадпрыемстваў. І патрэбны капітал на пачатак. Сяляне наракаюць, што не аплачваецца ім апрацоўваць зямлю і дамагаюцца павышэння і забеспячэння мінімальных цэн на свае прадукты. Нядаўна прачытаў я ў „Ніве" нараканні жыхараў вёскі, „прадуцэнтаў" жыта, мяса, малака, на цяперашнюю рыначную гаспадарку і хвальбу часоў камуны. Прыпомню, што тады ў гарадах стаялі велізарныя чэргі за абы-якім таварам. Ці хочаце, каб далей так было? Далей будзеце смяяцца з тых з горада, якія ездзяць да бедных бацькоў на вёску за прадуктамі?! Ці такая гаспадарка гэта нармальная гаспадарка? Дарагія сяляне, нельга наракаць і чакаць на ўрад, Амерыку, рускіх. Трэба варушыць мазгамі, думаць, што і як рабіць, каб выжыць. Калі маеш брат два-тры гектары зямлі і каб яе апрацаваць трэба табе да ўсяго наняць машыны, то лепш прадай гэтую зямлю, а сабе пакінь столькі, колькі можна абрабіць лапатай, каб пасадзіць моркву і займіся тым, што дасць грошы. Зямлю купіць той, каму будзе аплачвацца яе абрабляць, які купіць камбайн і іншыя машыны.

Арганізатарам гаспадарчай дзейнасці сярод беларусаў на беларускіх вёсках Беласточчыны можа стаць БДА. І калі яно зоймецца гэтым, дык у наступных выбарах у Сейм здабудзе столькі галасоў, што без праблемы перагоніць В. Цімашэвіча ці іншага „прадстаўніка" беларусаў. БДА ўжо гэтым занялося, але пакуль што не стае вопыту, няма ахвотных і кампетэнтных людзей да працы, якія апрача грамадскай справы бачылі б у гэтай дзейнасці свой інтарэс. Хачу сказаць, што ў гаспадарчай дзейнасці не бачу БГКТ. Таварыства створана для спраў культурна-асветніцкіх і няма ў ім менеджэраў. Не ў тым справа, каб працаваць на таварыства. Трэба працаваць для таварыства таму, што яно існуе для духа: мовы, свядомасці, літаратуры, музыкі, танцаў, асветы...

**МІХАСЬ КУПТЭЛЬ**

****************************************

## БЕЛАСТОЦКІЯ СУСТРЭЧЫ З КУЛЬТУРАЙ ПАГРАНІЧЧА

**( Працяг са стар. 1 )**

Другі дзень сустрэч быў выязным для гасцей. Журналісты, паэты і барды паехалі ў Сейны, Бельск-Падляшскі, Гайнаўку, Мельнік, беластоцкія вёскі, амаль усе, аднак, паявіліся вечарам у зале ВЦАК на „Ромскім (цыганскім) вечары". Выступалі мастак і харэограф Тамара Дэмэтэр, мясцовыя цыганскія ансамблі, шмат расказваў пра польскіх цыганоў рэдактар цікавага беластоцкага часопіса „Ром-по-дром" („Цыган на ростанях") Станіслаў Станкевіч.

У нядзелю на сустрэчу ва універсітэце „Журналіст перад праблемамі нацыянальных меншасцяў" не прыбыў прафесар Уладзімір Паўлючук з Кракава. Праф. Уладзіслаў А. Сэрчык распавядаў аб суадносінах Польшчы і Украіны да XVIII стагоддзя. Галоўны рэдактар „Нашага слова" Раман Галан прадставіў украінскі друк у Польшчы. Дыскусія, якая датычыла больш дзяржаўных суадносін, пачала нахіляцца да тэм рэгіянальных, беларуска-украінскіх, і праф. Адам Дабронскі, вядомы ў друку як Адам Чэслаў, які шмат піша і ўсхваляе „Крэсы", хутка яе закончыў. Другой часткі семінара не было.

Вечарам у кінатэатры „Форум" а 18 гадзіне пачаўся „Вялікі канцэрт пагранічча". Вялі яго Міраслаў Грыка, ініцыятар і арганізатар сустрэч, і Васіль Воран, журналіст з Луцка. Першымі выступілі беластоцкія цыганы, танцавала Тамара Дэмэтэр. Усіх захапіла выступленне бельскай „Маланкі", якая папоўнілася цяпер сіламі „Васілёчкаў". Багатую рэпрэзентацыю мелі на гэтым канцэрце украінцы — выступілі артысты з Украіны, якія ігралі на народных інструментах (бандуры, тэорбане), між іншымі, славуты Супрун, песняры, барды. Хаця канцэрт быў імправізаваны, выдатна працаваў гукавік, што яшчэ павышала якасць выканання твораў.

Канцэрт зацягнуўся, а ў клубе БГКТ ад публікі аж кіпела — не маглі ўжо дачакацца гасцей і выканаўцаў на „Беларускім вечары". Спознены канцэрт, пасля прамовы старшыні ГП БГКТ А. Баршчэўскага, пачала Марта Драль з Васількова і „Альбаросіка". Выступілі калектывы з Гарадка, Беластока, Рыбалаў, спявала Ала Дубец з Санока. Сваю паэму пра Багдановіча чытаў Валеры Грышановіч з Менска. У святліцы можна было асвяжыцца квасам, купіць беларускія выданні (сваю кніжку „Вясёлка" падпісваў Віктар Шved), паглядзець рукадзельныя вырабы Любы Гаўрылюк, Ніны Мушынскай, рэзьбы Уладзіміра Наумюка. Трэба пахваліцца, што якраз „Беларускі вечар" выклікаў найбольшае зацікаўленне беластачан, і калі б не кепская рэклама (практычна яе амаль не было), не хапіла б гледачам не толькі калідораў памяшкання БГКТ, але нават цэлай Варшаўскай вуліцы!

Наступныя сустрэчы — праз год. На гэты раз на першым плане будзе культура Беларусі і польска-беларускія культурныя суадносіны. Але толькі ў тым выпадку, калі арганізатарам хопіць і грошай, і сілы на арганізацыю такога мерапрыемства.

**МІРА ЛУКША**

************************



## ПАБОЛЬШВАЕЦЦА СЯМ'Я ЭКСКУРСАВОДАЎ

Абодва турыстычныя бюро, якія ў Белавежы займаюцца абслугоўваннем турыстаў ці экскурсантаў, выразна адчуваюць недахоп экскурсаводаў, валодаючых замежнымі (заходнімі) мовамі. У апошні час часта звярталіся яны за дапамогай да навуковых супрацоўнікаў, асабліва з Лабараторыі даследавання млекакормячых ПАН. Тыя бадай ахвотна вадзілі экскурсіі, але сустракаліся з неадабрэннем такой практыкі з боку дырэкцыі Белавежскага нацыянальнага парку. І, вось, па ініцыятыве кіраўнічкі прыватнага турыстычнага бюро Т. Валкавыцкай, і са згоды старшыні гуртка экскурсаводаў С. Куявяка, Аддзел ПТТК у Белавежы 1 снежня г.г. наладзіў дзяржаўны экзамен экстэрністычным парадкам. У яго выніку права вадзіць экскурсіі па Белавежскай пушчы атрымала 16 чалавек. Вось яны: Агнешка Красінская, Пётр Бартызаль, Анджэй Бобец, Тамаш Балук, Ян Хвашчэўскі, Багуміла і Уладзімеж Енджаеўскія, Генрык Акарма, Цэзары Акляевіч, Збігнеў Кэмпінскі, Ян Вуйцік, Кароль Зуб, Анджэй Залеўскі, Кшыштоф Шмідт, а таксама Анна Абрамовіч і Павел Трусевіч. Чатыры асобы пастаянна жывуць і працуюць па-за межамі Белавежскай пушчы.

Пры нагодзе некалькі экскурсаводаў павысілі свае кваліфікацыі. Званне экскурсавода першага класа здабылі: Галіна Віснеўская (водзіць пераважна нямецкамоўныя групы) і Ян Лапінскі (вядомы на Беласточчыне знаўца зёлак).

Зараз у белавежскім і гайнаўскім гуртках каля 120 экскурсаводаў. Так што ёсць каму вадзіць, толькі каб было каго!

У белавежскім гуртку зараз, як у кожны асенне-зімовы перыяд, вядуцца перападрыхтовачныя курсы. Што два тыдні чытаюцца даклады на тэму аховы прыроды, апошніх вынікаў навуковых даследаванняў праведзеных у пушчы ды іншых спраў, пра якія неабходна ведаць белавежскаму экскурсаводу. У сувязі са святкаваннем 70-годдзя існавання Белавежскага нацыянальнага парку адбудзецца чытанне цыкла дакладаў, прысвечаных гэтай гадавіне. Лекцыі прыязджаюць слухаць таксама экскурсаводы з Гайнаўкі.

**ПЁТР БАЙКО**

**Фота аўтара**



*Белавежскія экскурсаводы ў час летніх заняткаў.*

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




*У гасцях у „Зоркі” быў III „Д” клас з бельскай „Тройкі”.* **Фота А. Максімюка.**



**Віктар Шведа**

## НАША АБРАДНАСЦЬ

Цешыць нас, што ў родных хатах
Сустракаем нашы святы
І адвечны наш абрад,
Што з душэўнай асалодай
Адзначаем мы заўсёды
Свята слаўнае Каляд.

Згодна з праваслаўнай верай
Да Каляднае вячэры
Людзі з гарадоў і сёл,
Сыну Божаму на славу
Спажываць супольна стравы
Селі за святочны стол.

У святую ноч не спіцца,
У царкоўку памаліцца
Едуць, сеўшы ўсе на воз.
І малыя, і старыя,
Пяюць песні калядныя:
Нарадзіўся нам Хрыстос!

ЯКАБ І ВІЛЬГЕЛЬМ ГРЫМ

## ЯК КОШКА З МЫШШУ СЯБРАВАЛІ

Адна кошка пазнаёмілася з мышшу і так часта распавядала пра сваю прыхільнасць і сяброўскія пачуцці да яе, што мыш урэшце рэшт згадзілася жыць з ёю ў адной хаце і супольна гаспадарыць.

„Трэба нам зрабіць запасы на зіму, інакш будзем галадаць”, — кажа кошка. — Табе, мышка, не прыдзецца рызыкаваць, каб у канцы канцоў не апынуцца ў пастцы”.

Добра падумаўшы, яны купілі гаршчок тлушчу. Але дзе яго паставіць?

Нарэшце пасля доўгіх разважанняў кошка кажа: „Няма лепшага мейсца для захавання, чым царква. Там ніхто не адважваецца што-небудзь украсці. Паставім гаршчок пад алтаром і не будзем чапаць яго да тае пары, пакуль не спатрэбіцца”.

Схавалі яны гаршчок у надзейнае мейсца. Але стаяў ён там нядоўга.

Захацелася кошцы тлушчу. Вось і кажа яна мышы: „Слухай, мышка, бярэ мяне мая сваячка за куму. Нарадзіла яна сыночка, беленькага, у чорныя плямы, дык я буду хрысціць яго. Дазволь мне сёння схадзіць у госці, а сама ўжо даглядай гаспадарку”. „Добра, добра, — адказвае мыш, — ідзі сабе з Богам. Будзеш есці што смачненькае, успомні пра мяне. Я ахвотна выпіла б кропельку салодкага чырвонага віна за нараджэнне дзіцяці”.

Але ўсё гэта было няпраўда. У кошкі не было сваячкі і ніхто не прасіў яе за куму.

Яна адразу ж пабегла ў царкву, пракралася да гаршчка, пачала лізаць тлушч і злізала ўвесь вяршок. Потым кошка прагулялася па гарадскіх стрэхах. Карыстаючыся выпадкам, яна разлеглася на сонцы і аблізала вусы, прыгадаўшы гаршчочак з тлушчам.

Толькі ўвечары вярнулася кошка дадому. „Ну, прыйшла, — кажа мыш. — Відаць, весела правяла дзянёк”. А кошка ў адказ: „Было вельмі добра”. „Якое ж імя далі дзіцяці?” — пытаецца мыш.

„Вяршок”, — стрымана адказвае кошка. „Вяршок!” — піскнула мыш.

— Якое дзіўнае і рэдкае імя. Хіба ў іхняй сям'і так прынята?” „Ну і што, — адказвае кошка, — не горш, чым Крошкакрад, як назвалі цябе тваe хрэсныя бацькі”.

Праз нейкі час кошцы зноў захацелася палізаць тлушчу. Звяртаецца яна да мышы: „Зрабі ласку, застанься яшчэ раз адна дома. Мяне зноў бяруць за куму. У кацяняці вакол шыйкі такая беленькая пасачка, што я не магла адмовіць”.

Спагадлівая мыш згадзілася. А кошка прабралася цераз гарадскую сцяну да царквы і выела з гаршчка палавіну тлушчу. „Найлепш з'есці самому”, — сказала яна, вельмі задаволеная сваім учынкам.

Вярнулася кошка дадому, а мыш пытаецца: „Як жа ахрысцілі гэтае дзіця?” „Палавіннікам”, — адказвае кошка. „Палавіннікам! Што ты кажаш? Такога імя я ніколі не чула за ўсё сваё жыццё. Даю галаву на адсячэнне, што такога імя няма ў царкоўным календары!”

Кошка хутчэй выцерла мордачку пасля з'едзеных прысмакаў. „Бог тройцу любіць, — сказала яна. — Мяне зноў папрасілі быць хрэснай маці. Кацяня ўсё чорненькае, толькі лапкі белыя, а ў поўсці і белай валасінкі няма. Ужо колькі год запар, як напаткае мяне, дык адразу: „Калі ж ты прыйдзеш да мяне ў госці?” „Вяршок, Палавіннік, — адказала мыш, — такія незразумелыя імёны. Яны прымушаюць мяне задумацца”. А кошка ў адказ: „Гэта ўсё ад таго, што ты ў сваёй цёмна-шэрай спадніцы і з доўгай касою сядзіш дома і сумуеш”.

У адсутнасць кошкі мыш прыбрала ў хаце, а тая, ласая да прысмакаў, вылізала з гаршчка ўвесь тлушч. „Цяпер, калі ўсё з'едзена, можна быць спакойнай”, — сказала яна сама сабе.

Наеўшыся ад пуза, кошка толькі ўначы вярнулася дадому. Мыш адразу запытала пра імя, якое далі трэцяму кацяняці. „Яно табе, мусіць, не спадабаецца, — адказала кошка,

— яго назвалі Увесік.” „Увесік! — усклікнула мыш. — Я ні разу не сустракала такога ў кнігах. Што б гэта значыла?” Яна паківала галавой,

( Працяг на стар. 10 )

Цікава ведаць

## Незвычайнае дрэва

Эўкаліпт — адно з буйнейшых дрэў свету. Ён вядомы не толькі сваім ростам — да 150 метраў, але і сваімі незвычайнымі якасцямі.

У лісці і маладых парастках эўкаліптаў утрымліваецца каштоўнае эфірнае масла, якое цяпер выкарыстоўваецца ў медыцыне, парфюмерыі, харчовай прамысловасці, тэхніцы. У многіх раёнах менавіта эўкаліпты садзейнічалі зніжэнню захворвання людзей малярыяй. Асобныя лятучыя рэчывы, што выдзяляюцца лісцем, забіваюць камароў, маскітаў, мух. Магчыма, менавіта за гэта дрэва і атрымала сваю назву „эўкаліпт”, што ў перакладзе азначае „чыстае паветра”.

Радзіма эўкаліпту — Аўстралія, але чалавек перасяліў гэту расліну і ў іншыя цёплыя краіны Еўропы, Амерыкі, Афрыкі і Азіі.

(яц)



Адгадкі: карова з цялём, грыбы, зара, лось.





**ЛЕТНІ УСПАМІН.** *Магдалена Петрук, Маніка Лагуна, Ася Лагуна і Паўлінка Петрук над возерам Райгродскім.*

## ЗАХАЧУ — І МНЕ ПРЫСНІЦЦА

Наскакалася я, нагулялася з сяброўкамі, а калі засталася адна, пабегла да мамы. Мама сядзела ля дома. Дыхала перад сном свежым паветрам.

— Пойдзем дахаты, — сказала яна. — Позна.

Я прытулілася да мамы і нібыта не разумею.

— Каму позна? — пытаю.

— Табе.

— А я гэтага не адчуваю.

— Заўтра адчуеш, калі будзіць пачну.

Гэта праўда. Прачынацца ранкам — бяда. Але я не здаюся:

— А калі заўтра надвор'е будзе добрае?

— Пры чым тут надвор'е? — не разумее мама.

— А ты заўсёды кажаш: дрэннае надвор'е ў дрымоту кідае.

— Гэта зусім не пра тое. Ідзі спаць!

Я хвіліну маўчу.

— Мама, а чаму зоркі мігаюць?

— Ты мне зубы не загаворвай!

— Я не загаворваю. Я хачу даведацца.

— Таму што зоркам спаць захацелася.

— А што калі да нас іншапланецяне прыляцяць?

— Ты з імі ў сне спаткаешся.

— А мы з імі зможам размаўляць?

— З кім — з імі?

— З тымі, хто прыляціць з іншай планеты.

— З недысцыплінаванымі яны не размаўляюць.

— А як яны даведаюцца, што мы — не-дыс-цып-лі-на-ва-ныя?

— Не мы, а ты, — папраўляе мама. — Зірнуць на гадзіннік і даведаюцца.

— На той, што на крамлёўскай вежы?

— Ага.

У мяне раптам цяжэюць павекі, і я пазяхаю.

— Калі... я ве-е-льмі захачу, то ў сне... сустрэнуся з іншапланецянамі. Пойдзем спаць, мамачка!

**ВІСАРЫЁН ГАРБУК**

*Раскажыце нам свой сон. Самыя цікавыя надрукуем.*



## ПАЗНАЁМІМСЯ

### ЛІСТЫ З МІКАШЭВІЧ

Добры дзень, дарагая „Зорка"! Піша табе вучаніца 6 „А" класа сярэдняй школы н-р 2 г.п. Мікашэвічы **Крывулец Крысціна**. Я хачу расказаць вам пра сваю сяброўку.

Маю сяброўку завуць Наташа. Яна вучыцца разам са мной. Я і мая сяброўка ходзім на гурток „Крынічанька". Мы вельмі любім складаць вершы. Вось адзін верш, які я склала сама.

**МАРОЗ-ЧАРАЎНІК**

Свішча ў полі завіруха  
І ў коміне гудзе,  
Сыпле белым снегам-пухам.  
Дзед Мароз ідзе,  
Дзе ні пройдзе,  
Там і сцюжа.  
З хаты не падацца,  
Але хітрыя дзеці  
Дзеда не баяцца.

Мая сяброўка сядзіць на чацвёртай парце, а я на пятай. Мы просім яе суседа перасесць на другую парту і ён перасядае. Тады я саджуся з Наташай. Калі яна што-небудзь раскажа, то настаўніца нічога не гаворыць, а толькі смяецца.

З Наташай мы вучымся аднолькава. На ўроку мы сядзім і лічым, колькі ў якой пяцёрак. Калі ў мяне іх больш, тады Наташа стараецца падымаць руку і зарабляць пяцёркі. Наташа любіць чытаць кнігі. Калі прыходзіць да мяне, адразу бярэ цікавую кнігу і просіць узяць яе дадому пачытаць.

Мая сяброўка мне вельмі падабаецца, і я хачу мець такога сябра ў Польшчы.

Мой адрас:  
Беларусь, 225610, Брэсцкая вобл., Лунінецкі раён, г.п. Мікашэвічы, вул. Першамайская, д. 90, кв. 26, **Крывулец Крысціна.**

*

Прывітанне, дарагая „Зорка"!

Піша табе вучаніца 6 класа Мікашэвіцкай школы н-р 2 **Хаміцэвіч Алена**. Я хачу расказаць пра сябе. Мне 11 гадоў. Я люблю хадзіць у школу, вучуся добра, на чацвёркі і пяцёркі. Вельмі люблю беларускую і замежную мовы. А яшчэ люблю ўрок музыкі і спеваў. Я хаджу ў музычную школу, там ужо вучуся трэці год. Я іграю на баяне. Калі мая мама мне гаворыць нешта сыграць, я з ахвотай выконваю яе просьбу. Мне вельмі падабаецца, калі іграюць іншыя, але люблю іграць сама, асабліва хуткія беларускія полькі. Я хачу добра навучыцца іграць і стаць настаўніцай музыкі і спеваў у школе.

Я б хацела пазнаёміцца з дзяўчынкай з-за мяжы, не абавязкова, каб яна ўмела іграць. Галоўнае, каб яна была добрай сяброўкай!

Мой адрас: Рэспубліка Беларусь, Брэсцкая вобл., Лунінецкі раён, г.п. Мікашэвічы, вул. 1 Мая, д. 95, кв. 40, **Хаміцэвіч Алена.**





*Мішык з Рыбалаў з сяброўкай Данай.*  
**Фота М. Вауранюка.**

## ЯК КОШКА З МЫШШУ СЯБРАВАЛІ

**( Працяг са стар. 9 )**

скруцілася ў клубочак і заснула.

З тае пары кошку ўжо ніхто не прасіў за куму.

Прыйшла зіма. Цяжка стала здабываць ежу. Успомніла мыш пра прыпасы і кажа: „Слухай, кошка, пайшлі па гаршчок з тлушчам, што мы прызапасілі. Паядзім смачна". „Добра, — адказвае кошка, — яно будзе смачна, калі ты раптам не згубіш свайго тонкага нюху".

Прыйшлі яны і бачаць: стаіць гаршчок на ранейшым мейсцы, але пусты „Вох, — кажа мыш, — зараз я зразумела, у чым справа. Вось калі высветлілася, якая ты мне сяброўка! У той час, калі ты казала, што пойдзеш на хрэсьбіны, ты зжэрла спачатку вяршок, потым палавінку, потым..." „Замаўчы, крыкнула кошка, — яшчэ адно слова, і я цябе з'ем!". „Увесь" — гэта слова было ўжо на языку ў беднай мышы. Толькі яна вымавіла, як кошка скочыла, схапіла мышку і праглынула. Вось як бывае на свеце.

**Пераклад Раісы Крывальцэвіч**

## ЗАГАДКІ

**Казімір Карызна**

Жывая гара  
Сярод двара,  
Ля яе горка,  
На лбе белая зорка.

З-пад мохавай сховы  
Павысоўвалі хлопцы галовы.  
Хто ні ідзе — іх вітае,  
З сабой забірае.

За лесам пажар палае,  
Ніхто яго не тушыць,  
Кожны вітае.

У лесе жыве,  
Харчуецца,  
На галаве  
Дрэва красуецца.

*Адгадкі шукай на старонках „Зоркі".*



## -А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А-



**Якой дарогай сані каралевы Зіны даедуць у парк?**

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА ЛЕКСІКАЛОГІЯ

### 8. Іншамоўныя словы ў лексічнай сістэме беларускай мовы — працяг

**Паланізмы.**

Беларуская мова мела непасрэдныя кантакты з польскай мовай на працягу ўсяго свайго існавання. Першыя польскія словы беларуская мова запазычыла ўжо ў канцы XIV ст., пасля Крэўскай уніі ў 1385 г., калі ўзмоцніліся паміж Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім эканамічныя, палітычныя і культурныя сувязі. Пры каралеўскім двары была створана спецыяльная канцылярыя, якая пісала на беларускай мове дакументы, прызначаныя для Вялікага княства Літоўскага. У сувязі з гэтым найбольш лексічных паланізмаў назіраецца ў дзелавой пісьменнасці: *жадень* (ніводзін, ніхто), *кроль* (кароль), *моць* (сіла, магутнасць), *обронца* (абаронца).1

„У канцы XV ст. польскі лексічны ўплыў праяўляецца ўжо не толькі ў галіне дзелавой пісьменнасці. У гэты час паланізмы сустракаюцца ў перакладных рэлігійных і жыційных аповесцях „Пакуты Хрыста", „Аповесць аб трох каралях-валхвах" і „Жыціе Аляксея, чалавека божага", у некалькі меншай меры — у беларускіх летапісах".2 З таго часу паходзяць такія лексемы, як напр.: *воня* (пах), *едность* (адзінства), *зимно* (холадна), *зыскъ* (прыбытак), *моцарь* (уладар), *хвиля* (кароткі час, імгненне), *яскіня* (пячора).

„Шырока польскія словы сталі ўжывацца ў беларускай мове з другой палавіны XVI ст., калі пасля Люблінскай уніі 1569 г. частка беларускіх зямель увайшла ў склад Рэчы Паспалітай. З гэтага часу і да канца XVII ст. (да забароны выкарыстання беларускай літаратурнай мовы ў 1696 г.) былі запазычаны паланізмы *гарнец, герб, гузік, ксёндз, сродак, апантаны, дачасны, блакітны* і інш."3

Ужо тады праз польскую мову ў беларускую пранiклі асобныя словы і з заходнееўрапейскіх моў, напр.: *гафта, гафтка* ням. *Heft* (вышыванне, вышыўка), *інтэрцыза* польск. *intercyza* (шлюбны маёмасны кантракт) сярэднелац. *intercisa , intercisio*.4

У XIX—XX ст.ст. многія лексічныя паланізмы выступаюць у творчасці беларускіх аўтараў:

Я. Чачота: *кабета, піяк, рок, слоньцэ;*
В. Дуніна-Марцінкевіча: *мацарства, радзоны, срога, шляк;*
К. Каліноўскага: *здзерства, крулество, ронд, цеменжыць;*
А. Абуховіча: *дзедзічка, маетнасць, скутак, стасункі;*
Ф. Багушэвіча: *гдзекольвек, ксёнжка, цёнгле, ядвабны;*
М. Багдановіча: *енк, пэндзаль, слічны, скрыдлы;*
Ц. Гартнага: *заўзентны, істнасць, кнея, пекны;*
Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы, К. Чорнага і іншых: *балесны, выстарчаць, гжэчны, згуба, енчыць, кат, масянжовы, недаярак, пагарда, скутак, тлусты, утрапенне, шыбеніца*...5

Зразумела, не ўсе паланізмы замацоўваліся ў беларускай мове.

У залежнасці ад значэння, сярод паланізмаў вылучаюцца наступныя назвы:

— прадметаў быту: *відэльцы, гузік, сукенка;*
— прадуктаў харчавання: *вяндліна, зразы, клёцкі;*
— прадметаў і прадуктаў працы: *дратва, кельня, рыдлёўка;*
— грамадска-палітычных паняццяў: *войт, герб, крэсы;*
— культурных паняццяў: *абэрак, клавіш, кракавяк;*
— абстрактных паняццяў: *здрада, літасць, цнота;*
— прымет: *апантаны, блакітны, гвалтоўны;*
— дзеянняў, станаў: *апанаваць, вандраваць, кахаць;*
— вайсковых паняццяў: *гетман, зброя, улан;*
— пабудоў і іх частак: *палац, парэнчы, стадола;*
— некаторыя прастамоўныя словы: *бзік, галган, нэндза*.6

Паланізмы выдзяляюцца знешнімі адзнакамі. Найбольш тыповымі рысамі польскай мовы з'яўляюцца:

— спалучэнне дл: *быдла, павідла, скрыдлы;*
— спалучэнне **ен (эн), ён (он), ян (ан)** на месцы польскіх насавых **ą, ę**: *енчыць, прэнт, ксёндз, наконт, паляндвіца, апантаны;*
— гук **ц** на месцы ўсходнеславянскага **ч** : *моц, цуд;*
— спалучэнне губных зычных з галоснымі пярэдняга рада: *збавенне, утрапенне, утрапёны* (ва ўсходнеславянскіх мовах у такім становішчы развіўся зычны л, напр.: *пазбаўленне, сумленне*);
— суфікс **-унак**: *гатунак, рахунак;*
— націскны суфікс **-он (-ён)**: *незлічоны, утрапёны.*

————————————

1. А.М. Булыка, Паланізмы ў старабеларускай пісьменнасці ранняга перыяду, у: Беларуская мова і мовазнаўства, Мінск 1974, с. 16.

2. Там жа, с. 19.

3. В. П. Красней, У. М. Лазоўскі, І. М. Шчарбакова, Сучасная беларуская мова. Лексікалогія. Фразеалогія, Мінск 1984, с. 53—54.

4. Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія, Мінск 1961, с. 153.

5. Там жа, с. 154.

6. В.П. Красней, ..., с. 54.

****************************************************

# ЗАПРАШАЕМ НА З'ЕЗД!

Усіх членаў і прыхільнікаў БАСу запрашаем на IV З'езд Беларускага аб'днання студэнтаў, які адбудзецца 21 снежня 1991 года ў аўдыторыі Філіі Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, вул. Лінярскага 4.

**Праграма З'езда:**
10.00 — адкрыццё З'езда,
10.05 — выбары старшыні З'езда і рабочых камісій,
10.20 — справаздача старшыні БАС Уладзіміра Паца,
10.30 — справаздача Рэвізійнай камісіі БАС,
10.40 — галасаванне над „абсалютарыем" для ўступаючых уладаў,
10.50 — выбары старшыні, Галоўнай рады і Рэвізійнай камісіі БАС,
11.50 — прадстаўленне камісіямі прапаноў плана дзейнасці на наступны год,
12.10 — дыскусія над планам дзейнасці,
13.30 — прыняццё З'ездам пастаноў,
13.50 — кароткае выступленне нававыбранага старшыні,
14.00 — заканчэнне З'езда.

**Галоўная рада БАС**

**********************************************

# ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Калі Вы не паспелі падпісацца на „Ніву" на I квартал 1992 г., дык можаце яшчэ гэта зрабіць у Беларускім грамадска-культурным таварыстве. Дзеля гэтага трэба пералічыць грошы на рахунак: ZG BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, konto NBP 0/0 Białystok, nr 5021—3203—132

Кошт квартальнай падпіскі:
— Наша краіна — 39.000 зл.
— Амерыка (авіяпоштай) — 10 ам. дол.
— Аўстралія (авіяпоштай) — 14 ам. дол.

**********************************************

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

# НАЙЛЕПШЫЯ

Адбыліся фінальныя розыгрышы ў шахматы сярод моладзі пачатковых школ у Беластоцкім ваяводстве.

Першынство заваявалі дзве шахматныя каманды: з Пачатковай школы нумар 33 у Беластоку і з Пачатковай школы ў Нарве. За імі чарговыя месцы занялі каманды са школ: нумар 42 у Беластоку і нумар 1 у Гайнаўцы.

* * *

Закончыўся фінальны турнір у валейбол сярод ЛЗС у Беластоцкім ваяводстве. Пераможцам стаў ЛЗС у Белавежы. Апярэдзіў ён ЛЗС у Крынках і ЛЗС у Шымках.

ЛЗС у Белавежы адна з найлепшых спартыўных маладзёжных арганізацыяў на Беласточчыне. Паспяхова дзейнічаюць там лёгкаатлетычная, валейбольная і футбольная секцыі.

**(яц)**

# ПРА НАС, ДЫ БЕЗ НАС

26 лістапада г.г. адбыўся ў Варшаве другі сход заснавальнікаў Польска-беларускага клуба (ПБК). У снежні Ваяводскі суд у Варшаве павінен зарэгістраваць статут клуба, а ў першай палове студзеня 1992 г. прадбачваецца агульны сход арганізацыі. Клуб пакуль што знаходзіцца ў памяшканні „Вольнай Вшэхніцы" ў Варшаве, на вул. Гурнаслёнскай 20. Дзейнічае ён на тэрыторыі Рэчыпаспалітай Польскай. Сярод арганізатараў знаходзяцца такія знакамітасці як праф. Тадэуш Клапатоўскі, праф. Уладзімір Баярскі, праф. Тадэуш Вяжбіцкі, Кшыштоф Яблонка (МЗС) і іншыя відныя прадстаўнікі навукі і культуры. Гэта яны, безумоўна, будуць вызначаць узровень працы клуба. Цяперашнія кантакты заснавальнікаў ПБК з навуковымі, культурнымі і палітычнымі кругамі Рэспублікі Беларусь павінны ў хуткім часе праявіцца ў канкрэтных дзеяннях. Зараз ствараецца Польска-беларускае таварыства гістарычных навук, мэтай якога павінна стаць адфальшаванне гісторыі.

У праграме дзеяння Польска-беларускага клуба арганізатары прадбачваюць, апрача навуковага і культурнага абмену, зацікаўленне падзеямі на Беларусі і ў асяроддзях нацыянальных меншасцяў. Клуб будзе змагацца за забеспячэнне магчыма роўных правоў польскім арганізацыям на Беларусі і беларускім у Польшчы.

Арганізатары разлічваюць на ўдзел у працах клуба прадстаўнікоў інтэлігенцыі беларускай меншасці ў Польшчы, асабліва моладзі, з якою хочуць наладзіць сувязь і супрацоўніцтва. Думаю, што маладыя гуманісты, якія ўжо не раз праявілі ахвярнасць у грамадскім жыцці, і ў гэтым выпадку будуць здольныя ўключыцца на партнёрскіх прынцыпах у гэту неабыякавую для беларусаў справу. У іншым выпадку можа здарыцца такое, што астанецца нам толькі магчымасць наракаць на неспрыяльны для нашых спадзяванняў ход грамадскага руху, створанага іншымі быццам і для нас, але без нас.

**Я. ЖАМОЙЦІН**

**P.S.** Ад 1-га снежня г.г. дзейнічае падобны польска-украінскі клуб. Там аднак ад самога пачатку стварэння арганізацыі нічога не дзеецца без удзелу украінцаў.

*****************



*****************






### ДЭФЛАРАЦЫЯ

Яна вялікая, але вельмі далікатная. Усунь далонь у яе нутро. Субтыльна, павольна... Апусці руку як мага глыбей! Калі пачуеш супраціўленне — пакінь. На хвілінку. Потым выпрастай пальцы і пастарайся прыкласці край далоні да самага важнага месца. Цяпер трэба табе быць нахабнікам. Трудна. Не надта, але... Прымяні сілу. Перамажы супраціў матэрыі, памятай, што гэты разрыў дазволіць табе насытаць сапраўдную прыемнасць. Не вагайся!

Брава! Ты разрэзаў „Ніву". Цяпер можаш яе прачытаць!

### НАГА

— У гэтага кураняці адна нага карацейшая, — кажа кліентка да прадаўшчыцы.

— Ну і што? Будзеце яго есці, ці намерваецеся з ім танцаваць?!

### З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

— Што было б, — пытае дырэктар сакратарку, — калі б мне было ўсяго дваццаць гадоў?

— Было б цудоўна, — смяецца сакратарка, — мне было б пяць.

* * *

— З кім ты ўчора ехаў на машыне? — Васіля пытае калега.

— З жонкай, — адказвае збянтэжаны Васіль.

— Напэўна?

— Так. Не разумею, чаму гэта табе дзіўным здаецца?

— Мне здавалася, што твая жонка бландзінка. Жанчына, з якой ты ехаў мела рыжыя валасы.

— Вой, як усё хутка мяняецца. Я і не заўважыў, што яна пафарбавалася.

* * *

— Хто ў вашай сям'і найважнейшы? — пытае суседка малога Лукаша.

— Бабуля, — адказвае хлопец.

— Чаму?

— Яна мяне гадуе, варыць, сціраe, а мама з татам усё на шпацыр ходзяць.

* * *

— Ты цешышся, Міхаська, што ў цябе ёсць маленькі брацік? — пытае ўнука дзядуля.

— Не, — адказвае Міхаська. — Больш пацехі з сабакі.

— З сабакі? — здзіўляецца дзядуля.

— А так, — адказвае хлопчык. — Сабака бегае, гуляе, а брацік усё ляжыць ды плача.

* * *

— Цырк прыехаў, — кажа Натальцы маці. — Пойдзем паглядзець, дачушка?

— А што будуць паказваць?

— Розных звяроў. Напэўна пакажуць сланоў, тыграў, малпы...

— То і нашага татку пакажуць? — смяецца дзяўчынка.

— Не. Ён не артыст, — пярэчыць маці.

— Ты ж яго малпай называеш, калі ён п'яны. А сёння Агатка мне гаварыла, што наш татка каля піўнай п'яны стаіць.

АЎРОРА

****************************************

# БУРКАТА

З рэпрадуктара пачулася музыка, затым грымнуў дружны хор:

*— Бывайце здаровы,*
*Жывіце багата!*

У адказ з канапы прабурчаў пануры гаспадар хаты:

— Ага, будзеш тут здаровы, калі ў аптэцы няма нават аспірыну... А з гэткімі парадкамі зажывём так багата, што хутка пашкандыбаем з торбай за плячамі...

Хор тымчасам працягваў:

*— У вашым калгасе*
*Шырокае поле,*
*Няхай жа для шчасця*
*Цвіце ваша доля.*

Каментарый з канапы таксама працягваўся:

— Яшчэ як зацвіце! Як тая свірэпка на тым шырокім полі...

Радыё нажадала слухачам:

*— Штодзень у капусце*
*Каб плавала скварка,*
*А к ёй, калі трэба,*
*Знайшлася б і чарка.*

Голас з канапы аж узвіўся да тэнара:

— А як жа! Зараз знойдзецца! Толькі талоны дзе знайсці, альбо цукру?

Хор, канечне, ніяк не мог дапамагчы яму і спяваў далей:

*— Жадаем яшчэ вам*
*Прыбытку у хаце,*
*Ні многа, ні мала —*
*Штогод па дзіцяці.*

— А чым іх карміць, гэтых жукоў каларадскіх? — лямантаваў слухач. — І ў што апранаць надшываншчаў?

Хор закончыў абяцаннем:

*— Дарогу ж мы знаем*
*Да вас ягамосці,*
*І ездзіць да вас будзем*
*Часта у госці.*

Ад злосці гаспадар не заўважыў, як сам перайшоў на вершы:

*— Мне толькі гасцей*
*Не хапала завесці!*
*Самому няма чаго*
*Піці і есці!*

У хату ўвайшла жонка, згінаючыся пад абярэмкам дроў:

— Усё ляжыш, усё бурчыш. Пайшоў бы нарэзаў дроў альбо накасіў бы...

— Ты мае правы не заціскай! — узарваўся мужык. — Сёння — дэмакратыя!..

— Ну тады ідзі, галасі на ўсю вуліцу, чаго ж бурчыш сабе пад нос, — параіла яна.

— Ну і пайду!

І ён пацягнуўся ў бок вясковай крамы, дзе ўжо таўкліся такія ж незадаволеныя парадкамі.

СЯРГЕЙ ДЗЕРЫШАЎ

(„Вожык")

****************************************

### ВЫБАР

— Пойдзем да мяне, ці ў кіно?
— Кінафільм... я ўжо глядзела!



# КАСЯК НА „З"

**Управа:** 1/ чуваць, калі пехта тэлефануе, 2/ абазначае, 3/ сродак для дасягнення або прылада для нападу, 5/ грошы наперад, 7/ метэорны дождж, 10/ адно за другое, 12/ на дзвярах або ў вопратцы, 13/ яркая афарбоўка гарызонта

**Улева:** 1/ жывёльны сімвал Белавежы, 2/ валодае спецыяльнымі ведамі, 4/ першы перыяд развіцця арганізма, 6/ даручэнне або запатрабаванне, якое можна чытаць унерад і ўзад, 8/ непрапечаны слой у хлебе, 9/ там, дзе сонца апускаецца, 11/ педахоп, недасканаласць, 14/ пэўная характэрная прастора.

„ядань"

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.




****************************************

Ніва

„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Biały-stok, ul. Warszawska 11,tel.435-118.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1992 r. upływa 20 lutego 1992 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.500 zł. a od 1 stycznia 1992 r. - 3000zł.
Cena prenumeraty miesięcznej:
- grudzień - 12. 500 zł
- styczeń - 12. 000 zł
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Biały-stok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.